НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 12 (801) 27 сакавіка 2013 www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Аднаўленая ў маі 1... Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серад...



## Наступны Дзень Волі — на волі

На акцыі было шмат сцягоў. Старонка 3.



## Беларус на Ямале

«Жыву ў бочцы — як паўночны Дыяген». Старонка 9.

# Беларускі след Барыса Беразоўскага



У Англіі не стала найвядомейшага расійскага алігарха. Старонка 4.

**Тэндэнцыі**

## «Свята Хатыні» і тупік беларускай адукацыі

70-годдзе хатынскай трагедыі нечакана нарадзіла новую «інтэрнэт-зорку». Усё пачалося з таго, што на жалобныя мерапрыемствы ў мемарыял па традыцыі звезлі студэнтаў і школьнікаў. Журналіст Алег Ражкоў і ўзяў інтэрв'ю ў навучэнкі Барысаўскага дзяржаўнага медыцынскага каледжа, якая ў суботу па сваёй ці іншай волі апынулася на месцы спаленай вёскі.

Тая гутарка заслугоўвае быць перададзенай у выглядзе стэнаграмы.

**Навучэнка** *(з усмешкай)*: Дык а як сказаць? *(Да рэпарцёра.)* А скажыце, як правільна сказаць. Мы скажам.

**Рэпарцёр:** Вы як думаеце, так і кажыце.

**Навучэнка** *(усміхаючыся)*: Дык а мы так не скажам.

*У кадры з'яўляецца жанчына, хутчэй за ўсё выкладчыца каледжа.*

**Настаўніца** *(тлумачыць студэнтцы)*: Прадстаўнікі Барысаўскага медкаледжа...

**Навучэнка:** Прадстаўнікі Барысаўскага медкаледжа, удзельнікі...

**Настаўніца:** ...Мітынгу рэквіем...

**Навучэнка:** ...Мітынгу рэквіем...

**Настаўніца:** ...Прысвечанага... *(студэнтка смяецца)*

**Навучэнка:** ...Прысвечанага...

**Настаўніца:** ...70-годдзю трагедыі Хатыні...

**Навучэнка:** А калі я проста скажу: «Прысвечанага 70-годдзю Хатыні».

**Настаўніца** *(падказвае)*: Трагедыі Хатыні.

Працяг на старонцы 6.

**Гаспадарка**

### Што даюць паездкі Лукашэнкі

Эксперт расце, але не так хутка, як дэкларуецца. **Старонка 5.**



**Гутарка**

### Генерал плакаў, калі пачуў песню па-беларуску

Палкоўнік Сяргей Макей пра войска і спевы. **Старонка 7.**



**Культура**

### Як беларусы называлі дзяцей 500 гадоў таму

Наркоў было больш за Сяргееў. **Старонка 11.**



**Тэлефанія**

### «Мы зарабляем мільярды на пантах моладзі»

Продаж тэхнікі Apple — залатое дно. **Старонка 15.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Псіхалагічная атака на апазіцыю

**Увесь Дзень Волі Анатоля Лябедзьку на відэа здымаў невядомы чалавек.**

«Як толькі я 24 сакавіка з'явіўся ля кінатэатра «Кастрычнік», да мяне адразу падышоў чалавек з камерай і пачаў здымаць. Папершае, гэта проста непрыемна. Па-другое, на такіх акцыях прызначаеш нейкія сустрэчы, размаўляеш з людзьмі, нярэдка аб прыватным. А гэты чалавек знаходзіўся за 2—3 метры ад мяне. Я, вядома, некалькі разоў выказаў усё, што думаю пра ягоную працу. Таксама спрабаваў рукой закрыць камеру. Напрыканцы акцыі гэты хлопец ужо быў з двума іншымі ў чорнай вопратцы», — расказвае лідар АГП.

Лябедзька перакананы, што такім чынам на яго аказваецца псіхалагічны ціск, такім самым спосабам спецслужбы адпрацоўваюць новыя прыёмы. Палітыка засмучае, што на такое «шпегаванне» ідуць грошы з бюджэту.

«Ну гэта іхняя работа. І такіх людзей з камерай на Дзень Волі было больш за дзясятак. Дзесьці ў Астраўцы ці Ашмянах у міліцыі няма грошай на паліва, каб выехаць на месца злачынства. Гэтыя ж людзі атрымліваюць, я думаю, вялікія заробкі».

Старшыня АГП лічыць, што такімі метадамі ўлады імкнуцца ўздзейнічаць нават не на яго, а на шараговых удзельнікаў акцыі апазіцыі. «Разлічана тое на студэнтаў, прадпрымальнікаў, дактароў, настаўнікаў. Людзей, якія тым ці іншым шляхам залежныя ад улады. Мэта простая — зрабіць так, каб на акцыі хадзіла меней людзей».

Што рабіць і як змагацца з такімі правакацыямі? «Я спрабаваў здымаць на тэлефон гэтага чалавека, ён адварочваўся, не хацеў трапляць у кадр. Вось у такіх умовах даводзіцца дзейнічаць лідарам апазіцыі. Яму гэта было непрыемна, бо разумее, што ў перспектыве могуць нядобра адгукнуцца такія здымкі», — падсумоўвае Лябедзька.




Гэты чалавек цэлы дзень 24 сакавіка здымаў лідара АГП Анатоля Лябедзьку.

### «А дзе Настасся?»

Неаднаразова правакацыі чыніліся супраць «маладафронтаўкі» Насты Дашкевіч (Палажанкі). Калі дзяўчыне было ўсяго 16 гадоў, яе кантакты і фотаздымак змясцілі на сайтах знаёмства. Насце тэлефанавалі розныя людзі з непрыстойнымі прапановамі. Тое самае псіхалагічнае ўздзеянне прымянялася супраць жонкі Аляксандра Мілінкевіча Іны Кулей.

Нядаўна таксама ў Насты забралі правы кіроўцы. «Я ўжо два гады езджу з адвакатам кожны тыдзень па турмах да Зміцра Дашкевіча. Заўсёды за рулём была сама. Два разы мяне лавілі за перавышэнне хуткасці, я парушала — пытанняў няма. Але атрымала ў выніку не штраф ці тры месяцы без правоў, я атрымала ўсе 10 месяцаў пазбаўлення. Калі ў мяне забралі правы, то за машынай працягнулася сачэнне, іншага чалавека лавілі з мігалкамі пастаянна ў горадзе, спадзеючыся, што там я. І нават пыталіся: «А дзе ж Настасся?» Хаця машына мне не належыць», — расказвае Палажанка.

### «Сочыць за мной»

«Я аднойчы выпадкова сустрэла Ірыну Халіп у горадзе, — працягвае Палажанка. — Яна кажа мне: «Вось, бачыш гэты «Опель»? Сочыць за мной». Я спачатку спакойна да гэтага аднеслася, думаючы, што шмат у каго з апазіцыянераў ёсць такія фобіі. Але пакуль мы з ёй прайшліся па вуліцы, папілі кавы, я давяла Ірыну да аднаго медцэнтра, дзе яна хацела Даніка абследаваць, гэтая машына настолькі нахабна ездзіла за ёй, чакала нас, што я была шакаваная».

Гэта далёка не адзіная правакацыя, якая чыніцца супраць журналісткі, жонкі Андрэя Саннікава Ірыны Халіп. На мінулым тыдні на адрасы беларускіх СМІ прыйшоў відэаматэрыял ад нібыта журналіста расійскага тэлеканала «Дождь» Мікіты Белагалоўцава. Ён прапаноўваў аўдыёінтэрв'ю з Ірынай Халіп.

Журналістка прызналася, што сапраўды пытанні ёй задавалі па тэлефоне, але былі яны абразлівыя, спрабавалі зачапіць інтымныя моманты. Журналіст Белагалоўцаў прызнаўся, што не мае дачынення да размовы — гэта звычайная правакацыя. Да гонару беларускіх выданняў — ніхто не выставіў гэтае бруднае «інтэрв'ю».

**Зміцер Панкавец**

**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

## Дык падпісвайся!

**Падпіска праз Рэдакцыю**

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 6 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перakазу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

**Падпіска праз «Белпошту»**

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15750 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18911 руб./месяц.

## Сціснa

**МНС пра паводку: пакуль рана драматызаваць сітуацыю**

Калі снег пачне хутка таяць, то можа здарыцца надзвычайная сітуацыя дзяржаўнага маштабу, паведаміў журналістам 25 сакавіка кіраўнік службы прагнозаў Рэспубліканскага гідраметэацэнтра Дзмітрый Рабаў. Аднак начальнік прэс-службы МНС Віталь Навіцкі параіў пакуль не драматызаваць сітуацыю. Паводле папярэдніх прагнозаў, сёлета ёсць верагоднасць падтаплення прыкладна 120 населеных пунктаў, 60 участкаў дарог, прыблізна 20 садовых таварыстваў і 19 мастоў на тэрыторыі 40 раёнаў.

**Швецыя дае Беларусі грант**

На ачышчальныя збудаванні ў гарадах на рэках, што ўпадаюць у Балтыку, выдзелена больш за 13 мільёнаў еўра.

**«Белсату» зноў адмовілі ў акрэдытацыі**

У сваім рашэнні МЗС Беларусі спаслалася на тое, што беларускія журналісты ўжо неаднаразова парушалі заканадаўства, калі супрацоўнічалі з тэлеканалам.

**Крэймэр заклікаў ЕС да санкцый супраць «Беларуськалія»**

Кіраўнік праваабарончай арганізацыі Freedom House мяркуе, што такім чынам можна прымусіць афіцыйны Мінск вызваліць палітвязняў.

**Кампенсацый банкаўскіх укладаў 90-х гадоў не будзе**

«Для гэтага з бюджэту краіны неабходна вылучыць вельмі вялікія грошы. А такой магчымасці ў дзяржавы няма», — сказала старшыня Нацбанка Ермакова.

СП

## Рэкамендуем

### Невядомыя лісты Багдановіча, прамовы Тарашкевіча, дакументы БНР — у Вільні ляжаць скарбы

Піша Алесь Смалянчук. **Чытайце на nn.by.**

## Самае чытанае на nn.by за 20—26 сакавіка 2013

1. Сотні людзей, сотні сцягоў на Дні Волі ў Мінску — анлайн, фота, відэа
2. Сведка стральбы ў Мазыры: У міліцыянтаў не было іншых варыянтаў
3. Топ-100 самых уплывовых людзей Беларусі
4. Беларуская мадэль агалілася для часопіса 25 Magazine — фота
5. Вынікі візітаў у Азію — Беларусь прадала ў М'янму 1000 фламастараў, 4 скрыні гарэлкі
6. Памёр Барыс Беразоўскі
7. «Трэба вярнуць ва ўжытак старыя беларускія імёны, якія нас так вылучалі»
8. Дэпард'ё прамяняў Расію на Бельгію
9. Чалавек з аўтобуса, адгукніся для інтэрв'ю!
10. Бел-чырвона-белы і чырвона-зялёны сцягі побач

# Наступны Дзень Волі — на волі

Градус палітычнай актыўнасці ў краіне цяпер невысокі. Гэтак ужо бывала ў перыяд паміж выбарамі 2001 і 2006. Менавіта ў 2003 і 2004 акцыі на Дзень Волі быліаднымі з самых нешматлікіх.

Пасля быў уздым 2006, некалькі наступных гадоў 25 Сакавіка таксама прыходзіла шмат людзей. Цяпер — чарговае падзенне актыўнасці.

Песімістычныя прагнозы ў нейкім сэнсе апраўдаліся і не апраўдаліся аднačасова. Людзей прыйшло не надта многа (каля 1,5 тысячы), але не менш, чым летась. Улады палохалі, што нельга браць з сабой сцягі, але сцягоў было шмат.

Відаць, няправільна наракаць на надвор'е, але абмінуць гэтыя абставіны таксама нельга. Марозу і сіверу нейкая частка людзей спалохалася.

Калону сёлета накіравалі па вуліцы Сурганава з нязвыклага боку, там дзе Дом друку. Там сцежка вузейшая. Ісці ў адзін шэраг можна было максімум пяці чалавекам. Таму людскі натоўп расцягнуўся.

Не хапала крыху цэнтралізаванасці. У пачатку калоны маглі гукаць «Жыве Беларусь», у сярэдзіне — «Свабоду палітвязням», а напрыканцы — пад бубен выконваць народныя песні ці «Ляпіса Трубяцкога».

Каля гандлёвага цэнтра «Еўропа» хлопцы і дзяўчаты-маладафронтаўцы сталі з метровымі плакатамі з партрэтамі палітвязняў. «Наступны Дзень Волі — на волі» — было напісана на іх.

На сам мітынг людзей прыйшла жменька, многія прынцыпова не хочуць заходзіць за металашукальнікі. Наўрад ці Дзень Волі некага моцна расчараваў. Але трэба чакаць наступнага ўздыму.

**Зміцер Панкавец**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Людзі на акцыю прыйшлі са сцягамі, нягледзячы на запалохванні.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

«Маладафронтаўцы» нагадалі пра палітвязняў.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Некаторыя прынцыпова не ішлі за міліцэйскія агароджы.



РАДЫЁ «СВАБОДА»

Пасля акцыі восем чалавек было затрымана.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

На свята ішлі з дзецьмі.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Сілавікі былі і замаскіраваныя, і незамаскіраваныя.

# Беларускі след Барыса Беразоўскага

**Цела нядаўна ўсясільнага БАБ знайшоў ахоўнік.**

Расійскага прадпрымальніка Барыса Абрамавіча Беразоўскага, чалавека настолькі вядомага, што яго пазнавалі нават пад крыптанімам БАБ, знайшлі ў ванным пакоі дома, дзе ён пражываў, у англійскім графстве Беркшыр.

Алігарх Беразоўскі перажыў не адзін замах, у тым ліку такі, у якім адарвала галаву ягонаму шафёру (1994), але таямніча сышоў з жыцця ў 67 гадоў.

Прычынай смерці Барыса Беразоўскага было павешанне, паведамляюць інфармацыйныя агенцтвы са спасылкай на вынікі паталагаанатамічнай экспертызы. Яшчэ павінны адбыцца таксікалагічнае і гісталагічнае даследаванні. Аднак ужо вядома, што слядоў «гвалтоўнай барацьбы» на целе не выяўлена.

Адны сябры нябожчыка заяўляюць, што колісь усёмагутны вараціла сапраўды перажываў апошнім часам дэпрэсію, звязаную з правaламі ў бізнэсе і пройгрышам суда за 6 млрд даляраў Раману Абрамовічу. Другія, як лорд Цімаці Бэл, сцвярджаюць, што Беразоўскі быў байцом па натуры і выключаюць версію самагубства.

«Я не ведаю, што мне рабіць. Мне 67 гадоў. І я не ведаю, што мне далей рабіць», — сказаў Беразоўскі ў апошнім інтэрв'ю часопісу Forbes.

У 1990-я Беразоўскі быў найвядомейшым алігархам Расіі. Менавіта ягонымі намаганнямі Барыс Ельцын выйграў, здавалася б, правальныя выбары ў 1996. Беразоўскі зрабіў усё, каб не дапусціць да ўлады камуніста Зюганава.

Потым Беразоўскі патапіў Яўгена Прымакова, расчысціў дарогу Пуціну. Але Пуцін выйшаў з-пад ягонага кантролю. Настолькі, што неўзабаве Беразоўскі быў вымушаны ўцячы з Расіі і шукаць прытулку ў Англіі.

Беразоўскі падтрымліваў любых праціўнікаў Пуціна. У тым ліку ён падхвальваў кіраўніка Беларусі ў той перыяд, калі Мінск канфліктаваў з Масквой. Беразоўскі не раз казаў, што не заўсёды разумее ўчынкі Лукашэнкі, але паважае яго як палітыка.

«Я шмат разоў сустракаўся з Лукашэнкам і магу сказаць, што Лукашэнка — сур'ёзны палітык з моцнымі якасцямі. Застаецца толькі пашкадаваць, што імі валодае асоба адкрыта аўтарытарная. Тым больш што ў сваіх памылках ён шчыры. Памылкі гэтыя вельмі дорага каштуюць беларускаму народу».

### Мутная гісторыя з арыштам Зельцэра

У 2008 праходзіла амаль пэўная інфармацыя, што Беразоўскі прыязджаў у Мінск на працэс амерыканскага адваката Зельцэра. І гэта ў той самы час, калі самога Беразоўскага актыўна расшуквала расійскае правасуддзе!

«Пакуль справа не будзе рассакрэчаная, нічога не магу сказаць», — кажа адвакат Зельцэра Дзмітрый Гарачка.

Сам Эмануіл Зельцэр прызнаваўся, што Беразоўскі быў на судзе. Зельцэр і прыляцеў у Мінск на самалёце Беразоўскага. Але проста ў аэрапорце яго арыштавалі. Больш за год амерыканец правёў у турме.

У Мінск Зельцэр прыляцеў, каб спраўдзіць інфармацыю адносна актываў (нафтаперапрацоўка) памерлага грузінскага мільянера Бадры Патаркацышвілі. На 50% спадчыны прэтэндаваў сам Беразоўскі.

Цікава, што яшчэ перад прыездам Зельцэра адвакаты Беразоўскага даслалі ў беларускую Генпракуратуру папярэджанне, што амерыканец прыедзе ў Мінск з падробленым пашпартам. І прапаноўвалі супрацоўніцтва.

Выказвалася меркаванне, што арышт Зельцэра дапамог Беразоўскаму ў разборках за спадчыну Патаркацышвілі.

22 студзеня 2011 у інтэрв'ю ўкраінскай газеце «Сегодня» Беразоўскі заявіў, што падзеі 19—20 снежня 2010 у Мінску былі спецаперацыяй расійскіх спецслужбаў, а многія супрацоўнікі беларускіх спецслужбаў працуюць на Расію.

Ён адзначыў, што тое, што адбылося ў Беларусі, «выгадна Расіі і катэгарычна не выгадна ні Беларусі, ні Захаду».

«Расея атрымала неабмежаваны ўплыў у гэтай краіне і, па сутнасці, загнала беларускія ўлады ў кут. Лукашэнка тры гады вельмі паслядоўна рухаўся ў бок дэмакратычных пераўтварэнняў», — казаў бізнэсмен.

Былі чуткі, што Беразоўскі мог фінансаваць кагосьці ў беларускай апазіцыі, як ён рабіў тое з украінскай (прычым, казаў, што ідэйна). Але гэтаму ніколі не было пацверджанняў, дый факт кантактаў Беразоўскага з Мінскам у 2008—2009 гадах сведчыць, што залатыя яйкі ён тут клаў, найхутчэй, у іншы кошык.

**Зміцер Панкавец**

**Барыс Беразоўскі**

нарадзіўся ў 1946 у Маскве. Ягоны бацька, Абрам Маркавіч, быў інжынерам-будаўнікам, працаваў на розных заводах будматэрыялаў. Маці, Ганна Гельман, працавала лабаранткай у Інстытуце педыятрыі. У савецкі час Беразоўскі абараніў кандыдацкую і доктарскую па кібернэтыцы — сістэмах аўтаматычнага праектавання і кіравання. Гэта была сапраўды перадавая на той час сфера навукі. Пры гэтым ён папрацаваў у шэрагу вялікіх прадпрыемстваў, у тым ліку на АўтаВАЗе. Тагачасныя сувязі лягуць у аснову ягонай бізнэс-імперыі 90-х.

У часы ўзрушэнняў Беразоўскі быў сярод тых, хто паспрабаваў злучыць бізнэс з палітыкай, каб атрымліваць перавагі ў прыватызацыі. Узамен за фінансаванне кампаніі Ельцына ў 1996 ён атрымаў пасаду намесніка сакратара Рады Бяспекі. Пасля, ад 1998 да 1999, ён займаў пасаду выканаўчага сакратара СНД. У 1999-2000 быў дэпутатам Дзяржаўнай Думы.

Ад пачатку 2000-х гадоў ён жыў у эміграцыі ў Вялікабрытаніі і рэгулярна крытыкаваў Уладзіміра Пуціна і яго палітыку. У Расіі ён абвінавачваўся ў махлярстве, адмыванні грошай і спробе гвалтоўнага захопу ўлады і быў завочна прысуджаны да турэмнага зняволення.

У 2008 годзе Forbes ацэньваў маёмасць Барыса Беразоўскага ў $1,3 млрд. Аднак цяпер, пасля смерці, высвятляецца, што большасць ягонай маёмасці закладзена і перазакладзена, а сума запазычанасцяў ці не перавышае актываў.

Ён настолькі ўмеў здавацца багатым і ўплывовым, што часамі грошы і ўплыў пачыналі самі плысці яму ў рукі.



## Барыс Беразоўскі: **Правілы жыцця**

- Госпад даў мне фенаменальнае жыццё. Яно рэальна фенаменальнае. Яно нават для мяне фенаменальнае, а я жыву ў гэтай шкуры.
- Капітал наймае на працу ўладу. Форма найму называецца «выбары».
- Сядзі ціха і крадзі. І тады ўсё будзе нармальненька.
- Трэба прыватызоўваць не завод, а яго дырэктара.
- Я ні на каго ніколі, апроч сябе, не крыўджуся.
- Я не хацеў бы называць сваіх жанчын былымі. Яны для мяне сапраўдныя. Я любіў і люблю іх у шырокім сэнсе слова. Гэта мае жанчыны, якія ўплывалі на маё жыццё. Зрабілі мяне такім, як я ёсць. Любыя іх праблемы - гэта мае праблемы.
- Я не адрозніваю закаханасці ад кахання.
- Кахання без рэўнасці не бывае.
- Я стопрацэнтны рамантык і генетычны аптыміст.
- Я вернік. Я прыняў праваслаўе ў сталым узросце — мне было 48 гадоў.
- Мяне папракаюць, што я сяджу ў цёплым кабінеце ў Лондане, а сам заклікаю людзей выходзіць на плошчу. Думаеце, гэта лёгка? Самі паспрабуйце!
- Грошы былі, грошы будуць, цяпер грошай няма!
- Я вам удзячны, што вы прызнаеце афіцыйна, што я не чорт ...
- Мяне абвінавачваюць у шматлікіх грахах, але ніхто, па-мойму, яшчэ не казаў, што Беразоўскі ідыёт.

# Чаргінец: Магчыма, Беразоўскі проста стаміўся

Старшыня афіцыйнага Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец узгадвае Беразоўскага.

**«Наша Ніва»: Калі Вы пазнаёміліся з Беразоўскім?**

**Мікалай Чаргінец:** Гэта было адкрыццё помніка ахвярам Афганістана ці гадавіна адкрыцця помніка. Беразоўскі тады прыехаў з Русланам Аўшавым, той тады быў старшынёй Камітэта па справах воінаў-інтэрнацыяналістаў. Мы сустрэліся ля помніка, сфатаграфаваліся, пасля быў банкет у рэстаране на трыста чалавек. Я з Беразоўскім размаўляў на тэму падтрымкі афганцаў, і ў першую чаргу дзяцей афганцаў, а таксама інвалідаў. Ён пагадзіўся, што трэба аказваць фінансавую падтрымку.

**«НН»: Якім Беразоўскі Вам падаўся?**

**МЧ:** Я адразу адчуў, што гэта разумны, хітры чалавек. Але пры гэтым вельмі просты ў адносінах. Не тое што некаторыя чыноўнікі. На тым банкеце прамовіў тост за тых, хто сышоў, і за тых, хто застаўся. Вельмі просты.

**«НН»: Што Вы думаеце пра ягоную смерць?**

**МЧ:** Калі з'явілася навіна, што Беразоўскі памёр, я гучна сказаў: «Павесіўся!» Жонка з мяне пасмяялася, а вось зараз высвятлілася, што менавіта так яно і было. Але не трэба выключаць, што гэта магло быць і забойства.

**«НН»: А чаму Вы адразу падумалі пра павешанне?**

**МЧ:** Інтуітыўна. Самагубства Беразоўскага выглядае рэальна. З аднаго боку, яго апошнім часам пераследвалі няўдачы, ад яго нямала патрабавалі ўлады. Чалавек мог проста стаміцца: ад вазні, ад клопатаў пра маёмасць па ўсім свеце. Магчыма, ён не бачыў далейшага свайго развіцця як палітык. Гэта магла быць простая стомленасць.

**Гутарыў Юрась Ускоў**

# Што даюць паездкі кіраўніцтва Беларусі ў далёкае замежжа?

Экспарт расце, але **не так хутка**, як дэкларуецца.

«Былі заключаныя кантракты на $400 мільёнаў, а дамоўленасцяў — на яшчэ большую суму», — гэта справаздача, якая з'явілася ў дзяржаўных СМІ пасля падарожжа Аляксандра Лукашэнкі ў Сінгапур і Інданэзію. Пасля кожнай далёкай паездкі ад кіраўніцтва краіны гучаць шматабяцальныя словы, аднак ці рэалізоўваюцца яны?

«Наша Ніва» ўзгадала некаторыя сустрэчы беларускай уладнай эліты з прадстаўнікамі экзатычных краін і адсачыла, наколькі пасля павялічыўся экспарт айчынных тавараў.

### Венесуэла — з $43 млн (2007) да $254 млн (2012)

Першая паездка Аляксандра Лукашэнкі ў госці да Уга Чавэса адбылася яшчэ ў 2007. Тады і нарадзіўся адзін з самых паспяховых замежных эканамічных праектаў Беларусі. Штогод Венесуэла купляе беларускіх тавараў на $200—300 мільёнаў. Апроч традыцыйных калійных угнаенняў (па $50 мільёнаў штогод), Чавэс закупляў каля 10 тысяч тон сухога малака, па 2000 трактароў і 300 мікрааўтобусаў. З дадатковай прыемнай дробязі — 8 камп'ютараў і 6 тысяч бінокляў.

Ці трымаліся гандлёвыя адносіны выключна на асобе Уга Чавэса, стане зразумела ужо сёлета.

### М'янма — $27 млн (2011)

Менавіта беларускімі фламастарамі (тысячай штук!) зацікавілася азіяцкая краіна пасля візіту Міхаіла Мясніковіча. Апроч таго, летась М'янма купіла ў нас хлеба і печыва на $100, гарэлкі — на $200, а шакаладу аж на $1000. Ёсць яшчэ некалькі чамаданаў, абутак, шарыкавыя ручкі... З больш дарагога тавару Белстат узгадвае толькі шэсць трактароў за $56 тысяч. Згодна з адкрытай часткай справаздачы Белстата, агулам леташнія пастаўкі беларускай прадукцыі ў М'янму склалі каля $1,5 мільёна. Траціну ад гэтай сумы занялі калійныя ўгнаенні.

### В'етнам — са $165 млн (2011) да $175 млн (2012)

Гэтая краіна была другім пунктам падарожжа Міхаіла Мясніковіча пасля М'янмы. «Падпісаныя кантракты на пастаўку ў В'етнам беларускіх калійных угнаенняў, кар'ернай тэхнікі, трактароў больш чым на $200 мільёнаў», — тлумачыў тады прэм'ер-міністр. У 2011 азіяцкая краіна набыла беларускіх тавараў на $165 мільёнаў. Што адбылося пасля?

Спіс леташніх паставак уражвае: 11 кг гумовых шлангаў, 360 тон шын, 1 тона згушчонкі, 240 тон малочнай сыроваткі... Але пагоду робяць усё тыя ж угнаенні. Іх летась было пастаўлена на $145 мільёнаў, як і пазалетась. У чым тады прынцыповы ўнёсак Міхаіла Мясніковіча, застаецца незразумелым.



PHOTO.BYMEDIA.NET

Трактараў «Беларус» хопіць на ўвесь свет.

> **«Трэба ісці ў іншыя месцы, дзе нас не ведаюць, дзе нас чакаюць, і гандляваць — дзесяццю трактарамі, адным камбайнам, хоць нават па чайнай лыжцы цукар вазіць».**
>
> Аляксандр Лукашэнка

**Экспарт беларускіх тавараў**

| | |
|---|---|
| 2008 | $32,6 мільярда |
| 2009 | $21,3 мільярда |
| 2010 | $25,3 мільярда |
| 2011 | $41,4 мільярда |
| 2012 | $46 мільярдаў |

### Таджыкістан — з $51 млн (2011) да $48 млн (2012)

У канцы 2011 Аляксандр Лукашэнка накіраваўся ў госці ў Таджыкістан. У той год таджыкі купілі беларускіх тавараў на $51 мільён. Найбольшай папулярнасцю ў гэтай краіне карыстаўся наш цукар (21 тысяча тон), купілі таксама 522 трактары і 4500 халадзільнікаў.

Прыехаў Лукашэнка — і на наступны год продажы паменшалі, нават цукру таджыкі купілі ўдвая менш. Затое іх удалося «падсадзіць» на беларускія нафтапрадукты. Агулам Беларусь прадала тавару на $48 мільёнаў.

### Зімбабвэ — са $100 тысяч (2010) да $800 тысяч (2012)

У ранейшых зборніках Белстата Зімбабвэ не ўзгадваецца. Афрыканская краіна, вядомая сваім дыктатарам Робертам Мугабэ, фактычна не мела супольных інтарэсаў з нашай краінай. Шыны і друкаваная прадукцыя — вось і ўсё.

Але варта было ў красавіку 2011 Аляксандру Лукашэнку сустрэцца з віцэ-прэзідэнтам Зімбабвэ, як гандаль пайшоў угару. Летась адных толькі калійных угнаенняў было прададзена на $760 тысяч, шын яшчэ на $40 тысяч.

Прыблізна тая ж сітуацыя і з астатнімі афрыканскімі краінамі. Пасля заключэння дамовы аб шчыльным супрацоўніцтве пачынаюцца невялікія пастаўкі прадукцыі «Беларуськалія», а таксама драбяза накшталт пары пачкаў паперы і фламастараў.

Ягор Марціновіч

# Кіраўнік «Белгазпрамбанка»: «Імавернасць паўтарэння крызісу — 50 на 50»

**Віктар Бабарыка** засцерагае ўлады ад штучнага стымулявання эканомікі.

Старшыня праўлення «Белгазпрамбанка» Віктар Бабарыка ацэньвае імавернасць паўтарэння крызісу ў беларускай эканоміцы як 50 на 50. «Калі б мне гэтае пытанне задалі ў студзені, то я б адказаў: 70 на 30 на карысць разумнага сцэнара», — сказаў ён.

Пры гэтым банкір падкрэсліў, што яго выказванне — «гэта цвярозы аналіз, не панікёрства».

Бабарыка растлумачыў, што асцярогі народжаныя рыторыкай беларускіх уладаў аб неабходнасці стымулявання эканомікі, у тым ліку за кошт зніжэння працэнтных ставак. «Я даю вельмі асцярожны прагноз. Калі пераможа рацыянальнае звяно (ва ўладных структурах), гэта значыць, меры па стымуляванні будуць жорстка прывязаныя да мэтаў эфектыўнасці, то адносная стабільнасць захаваецца. Калі ж зноў возьмуць верх тэндэнцыі 2010–2011 гадоў з аднаўленнем прынцыпу, што танныя грошы павінны стаць інструментам развіцця, то нічога добрага ў гэтым няма», — сказаў банкір.

Пры гэтым ён ахарактарызаваў бягучую сітуацыю з пункта гледжання перспектыў захавання стабільнасці як «вельмі трывожную».

«Самыя трывожныя словы — «вось зноў будзе шчасце». Гэтыя словы зноў пачынаюць перавражаць», — растлумачыў Бабарыка.

Паводле «Інтэрфакс»

# Жыллё для «чаргавікоў» і сілавікоў каштуе $630

Камерцыйнае — удвая даражэйшае.

Цана на жыллё для мінчукоў з чаргі на паляпшэнне жыллёвых умоваў усё яшчэ істотна меншая за камерцыйную. Днямі ў «Мінскім кур'еры» апублікаваная праектная дэкларацыя на новы дом у спальным раёне Лошыца.

Квадратны метр у ім будзе каштаваць усяго 5,45–5,85 мільёна рублёў. Гэта каля $630–680 у эквіваленце.

Жыць у Лошыцы будуць мінчукі, якія прастаялі ў чарзе на жыллё каля 20 гадоў, а таксама супрацоўнікі КДБ і Дэпартамента выканання пакаранняў. Прычым апошнія змогуць выкарыстоўваць льготныя крэдыты пад 5% гадавых.

Тым часам, па падліках сайта Realt.by, сярэдняя цана квадратнага метра ў навабудах перавысіла $1400.

ЯМ

**Сярэдняя цана квадратнага метра на другасным рынку жылля**

| | |
|---|---|
| Масква | $5430 |
| Варшава | $2600 |
| Кіеў | $2080 |
| Вільня | $1530 |
| Мінск | $1500 |
| Талін | $1465 |
| Рыга | $1275 |

# Беларус зарабіў за год $4,9 млн на аперацыях з каштоўнымі паперамі

Падаходны падатак з гэтай сумы склаў амаль **$600 тысяч**.

Найбольшую суму задэклараванага за 2012 год даходу атрымаў беларус, які займаецца аперацыямі з каштоўнымі паперамі. Ён зарабіў 41,4 мільярда рублёў. Адпаведна, яму налічаны падаходны падатак 5,1 мільярда рублёў.

Летась найбольшы даход складаў 21 мільярд рублёў, яго дэклараваў жыхар сталіцы.

Стаўка падаходнага падатку ў Беларусі складае 12%, яна адна з найніжэйшых у Еўропе.

Імёны багатых людзей падатковая інспекцыя не разглошвае.

СГ

## Сціісла

### Сярэдні заробак у Мінску дарос да $678

Згодна з падлікамі Белстата, у лютым 2013 сярэдні заробак у краіне склаў $522. Сярэдні заробак у сталіцы тым часам дасягнуў $678. Гэта найбольшы паказчык па краіне. На другім месцы апошнія месяцы трымаецца Наваполацк.

### «Дажынкі-2013» будуць каштаваць каля трыльёна

На падрыхтоўку Жлобіна спатрэбіцца каля $120 мільёнаў. Будуць адкрытыя гатэль на 114 месцаў, новы дзіцячы садок, зала гульнявых відаў спорту, новы будынак атрымае мясцовы краязнаўчы музей. Асноўная частка грошай будзе выдаткаваная з абласнога бюджэту.

### У Магілёве з'явіцца першы пяцізоркавы гатэль

Яго пабудуюць турэцкія бізнэсмэны — ЗТАА «Басфор-Буд». Рэалізацыя праекта ўжо пачалася. Гатэль будзе знаходзіцца на вуліцы Ціміразеўскай.

### Першую партыю беларуска-кітайскіх «Джылі» раскупілі

Большасць аўтамабіляў мадэлі Geely SC7, якія пачалі рэалізоўвацца ў Мінску, распрададзеная. У першай партыі было 16 аўто. Найбольш машынай, сабранай у Барысаве, зацікавіліся дзяржаўныя прадпрыемствы, але сярод кліентаў ёсць і фізічныя асобы. Аўтамабіль каштуе $12 990.

### Швейцарская электрычка даедзе да Бабруйска

Рэгулярны рух электрацягнікоў рэгіянальных ліній паміж Мінскам і Бабруйскам пачнецца 6 красавіка. На маршруце будуць курсіраваць дзве пары цягнікоў. Па дарозе яны будуць спыняцца толькі ў Асіповічах.

ЯМ

# «Свята Хатыні» і тупік беларускай адукацыі

Працяг са старонкі 1.

**Навучэнка:** Трагедыі... Прысвечаны 70-годдзю трагедыі Хатыні. Мы сёння прыехалі з медыцынскага каледжа на гэтае свята.

**Настаўніца:** Не свята!

**Навучэнка** *(спалохана)*: А-а-а! Як сказаць?

**Настаўніца:** Трагедыі!

**Навучэнка** *(разамзёю)*: Трагедыі!

**Настаўніца:** На гэты дзень памяці *(сыходзіць убок)*.

**Навучэнка:** Мы прыехалі на гэты дзень... Трагедыя. Із медыцынскага каледжа *(зноў усміхаецца)*.

**Настаўніца** *(з-за кадра)*: Ушанаваць памяць загінулых...

**Навучэнка:** Ушанаваць памяць загінулым *(шырока ўсміхаецца)*.

### «Гонар для нашай установы»

Датэлефанавацца да намесніка дырэктара па ідэалагічнай працы Барысаўскага медкаледжа ўдалося не адразу — яна была на нарадзе ў дырэктара. Карэспандэнт «Нашай Нівы» задаў Ірыне Мяцельскай толькі адно пытанне.

**«НН»: Як нам вядома, што Барысаўскі медыцынскі каледж браў удзел у адзначэнні гадавіны хатынскай трагедыі. Ці з'яўляецца ўдзел у такіх мерапрыемствах добраахвотным?**

**Ірына Мяцельская:** Мы дзяржаўная навучальная ўстанова і бярэм удзел ва ўсіх дзяржаўных мерапрыемствах. Гэта гонар для нашага каледжа.

**«НН»: Але навошта людзям, якія не ведаюць нічога пра трагедыю, браць удзел у жалобе?**

**ІМ:** А гэта вы бралі інтэрв'ю ў нашых студэнтаў?

**«НН»: Не, але тое інтэрв'ю стала падставай патэлефанаваць вам.**

**ІМ:** Прабачце, калі ласка, я па тэлефоне інтэрв'ю не даю.

Апошняя фраза прагучала вельмі раздражнёна.

У гэтай сітуацыі здзіўляе і стаўленне дзяўчыны (чалавек, які ўсведамляе сутнасць жалобнай цырымоніі, нават не ведаючы прычыны, наўрад ці будзе ўсміхацца), і няведанне пра Хатынь. Не ведаць пра найвядомейшую спаленую вёску, тым больш што школьныя праграмы, дый дзяржаўныя СМІ надаюць столькі ўвагі вайне — такое і ўявіць цяжка!

### Паступіць можа кожны, таму ўсе і паступаюць

Артыкул-споведзь маладога настаўніка «Два гады — і я валю» ў «НН» №10'2013 закрануў тэму правальнага падзення ўзроўню сярэдняй адукацыі і агульнай дэвальвацыі каштоўнасці ведаў. Гэта адбылося ў першую чаргу з прычыны скандальна — і стабільна — нізкіх заробкаў педагогаў у нашай краіне. Жыхары Заходняй Беларусі яшчэ памятаюць тыя часы, калі настаўнік быў багатым чалавекам, што рабіла і прафесію, і самі веды прэстыжнымі. Калі ўзяць Фінляндыю ці Германію, Японію ці Карэю, іншыя перадавыя краіны — там цяжка сабе ўявіць, каб настаўнік, а тым больш універсітэцкі выкладчык ці навуковец зарабляў менш за будаўніка, а тым больш хакеіста трэцясортнай каманды. Гэта самы найдзічэйшы капіталізм, калі тарыфы на некваліфікаваную працу перавышаюць тарыфы на кваліфікаваную.

Відэа з навучэнкай каледжа пацвярджае, што бяда ў нас не толькі з сярэдняй, але і з сярэднеспецыяльнай і вышэйшай адукацыяй. Не сакрэт, што прэстыж беларускай вышэйшай адукацыі таксама імкліва падае. Дабіваюць яе, як ні парадаксальна, патрабаванні выйсці на самазабеспячэнне. Вось і вучацца ва ўніверсітэтах і жук і жаба.



Мемарыяльны мітынг у Хатыні, 22 сакавіка.

REUTERS/VASILY FEDOSENKO

У 2011/12 навучальным годзе ў беларускіх ВНУ навучалася 442,9 тысячы студэнтаў. Па колькасці студэнтаў (467 чалавек) на 10 тысячаў жыхароў Беларусь абагнала Італію (343), Японію (315) і Германію (277). Уяўляеце: абганяем краіны з самымі якаснымі ўніверсітэтамі, куды рвуцца з усяго свету! На жаль, колькасць не гарантуе якасць.

Беларускія ВНУ не маюць ані талковых крытэраў для прыёму будучых студэнтаў, ані для выпуску. Прахадны парог фарміруецца з плана прыёму, а не з мінімальных патрабаванняў да ведаў. У сувязі з «інцыдэнтам з Хатынню» паглядзім на мінулагоднія прахадныя балы гістарычных факультэтаў нашых універсітэтаў. У БДУ трэба было набраць 281 бал, у БДПУ — 274, пры гэтым конкурсу на спецыяльнасць не было, усе трапілі на бюджэтныя месцы. У абласных універсітэтах з'яўляюцца конкурсы, але і прахадны бал там ніжэйшы: 255 балаў (188 на «платнае») у Брэсце, у Гомелі — 230 і 129 балаў адпаведна. У тым жа Гомельскім універсітэце можна было паступіць на спецыяльнасць «Гісторыя. Англійская мова» усяго са 153 баламі (на бюджэт) і 130 — на платнае.

А калі цябе прынялі ў ВНУ, то выпуск з дыпломам табе амаль гарантаваны, абы ты старанна наведваў заняткі. Гэта ў Францыі, напрыклад, палова студэнтаў адсейваецца пасля першага курса, але не ў Беларусі. Што да замежных студэнтаў, то ёсць шмат сведчанняў, што туркмены выходзяць з нашых ВНУ з нулявымі ведамі. Але з дыпломамі.

### «У Германіі вучаць думаць»

Не на карысць беларускай «вышкі» сведчаць і дадзеныя па мабільнасці студэнтаў: з Беларусі для атрымання вышэйшай адукацыі з'язджае больш людзей, чым прыязджае для гэтых мэтаў у Беларусь. Пры гэтым большасць замежных студэнтаў у нашай краіне — туркмены.

«На Захадзе адказнасць за навучанне бярэ студэнт, — расказвае прадпрымальнік Алесь Бондар, які спачатку скончыў БДЭУ, а пасля вывучаў бізнэс у Лейпцыгу (Нямеччына). — Ён сам вырашае, колькі, чаго і ў якім тэмпе засвойваць. Існуюць крытэры, і ніхто не будзе прабачаць, калі ты дапамагаў бабулі саджаць бульбу і чагосьці не зрабіў. Не адпавядаеш патрабаванням — не праходзіш далей, і ніхто не будзе цягнуць цябе праз залікі і сесіі да атрымання дыплома.

Беларуская ж вышэйшая адукацыя — гэта збольшага расцягнутая сярэднеадукацыйная школа. Еўрапейскія ўніверсітэты вучаць мысленню! Мысленню чалавека з вышэйшай адукацыяй. Возьмем, напрыклад, філасофію. У нас намагаюцца даць усё ад пачатку і да канца. У Еўропе курс можа будавацца на разглядванні аднаго — усяго аднаго — філасофскага паняцця. Але ў розных філосафаў, у розных школах. Студэнт вучыцца параўноўваць, разглядаць з розных бакоў, ацэньваць, крытычна асэнсоўваць, супастаўляць. Ці спіс літаратуры. Беларускім студэнтам даюць спіс з трыццаці кніг, якія ў рэальнасці мала хто чытае. У Германіі табе даюць адну ці дзве кнігі, але на іх аснове вучаць дасканаламу аналізу.

Наша адукацыя дае адказы на пытанні, у самым лепшым выпадку — алгарытм для дзеяння. Еўрапейская адукацыя развівае стыль мыслення, які чалавек з вышэйшай адукацыяй будзе выкарыстоўваць цягам усяго жыцця».

### Дзяржава не хоча

Таксама нельга спадзявацца на нейкія пазітыўныя змены ў якасці беларускай адукацыі любога ўзроўню, пакуль сама дзяржава падае моду на неадукаванасць. Многія высокапастаўленыя чыноўнікі часта прымушаюць сумнявацца ў іх кампетэнтнасці. Усе памятаюць «параненага байца», на прыкладзе якога губернатар Брэсцкай вобласці публічна выступаў «экспертам» па расійскай мове. Ці прэс-канферэнцыі былой намесніцы міністра сельскай гаспадаркі Надзеі Каткавец — сапраўдны кашмар любога журналіста. А «вершы Быкава», якіх ніколі не існавала, ці Скарыну, які жыў у Пецярбургу. Ніхто ж не папрасіў прабачэння за гэтыя ляпсусы.

Такія факты даюць сігнал для ўсёй сферы адукацыі: можна не асэнсоўваць існых заганаў, а падтрымліваць status quo. Адукацыя не выхоўвае ў людзях здольнасць разважаць — тое, што прадухіліць з'яўленне новых наведвальнікаў «свята Хатыні».

**Кірыла Хілько**

Водгукі

## Слова настаўнікам

Гісторыя маладога настаўніка «Два гады — і я валю» (№10) выклікала бурную рэакцыю і актыўныя абмеркаванні на сайце NN.BY. Каментатары, у асноўным настаўнікі, спачувальна паставіліся ці пакрытыкавалі Анатоля і расказалі свае гісторыі. «НН» вырашыла надрукаваць некаторыя з іх.

«Я сам студэнт 4 курса філфака БДУ. Працую ў чыжоўскай школе другі год і за гэты час меў шмат радасцяў і расчараванняў. З адміністрацыяй ніякіх «цёрак» ніколі не было, з бацькамі і дзецьмі — тым больш! Сапраўды, існуе падзел на моцныя і слабыя класы. У моцных даеш больш, у слабых — колькі змогуць засвоіць. Ёсць і такія дзеці, якім на ўсё пляваць. Ставіў нават па тры двойкі за чвэрць у класе, і ніхто слова не сказаў. Затое вынік ёсць — колішнія невукі пачалі працаваць.

Дзяцей можна зацікавіць! Калі не прадметам, дык уласнай асобай. Вельмі мяне радавала, што многія дзеці пачалі нават вершы пісаць па-беларуску! Заробак — іншая справа.

Працую і ўцякаць са школы пакуль не збіраюся. А што тычыцца таго, што «шмат цікавага хачу распавесці», дык скажу адно: пра цікавае можна расказаць так нудна, што не толькі дзеці, а і дарослыя б не вытрымалі. Так што не трэба ўсё спіхваць на іншых. Шмат праблем і ў самім настаўніку бывае...

Сыдзі на іх узровень (без панібрацтва), зазірні ім у вочы, паразмаўляй на адвольныя цікавыя ім тэмы на перапынках, дай ім адчуць цябе, і яны «твае», на ўроках дакладна будуць старацца!»

**Настаўнік беларускай мовы**

«Выкладаю гісторыю ў дзвюх мінскіх ВНУ. Рэформа сучаснай адукацыі ўжо набіла аскоміну, але некалькімі назіраннямі падзялюся.

З усіх знаёмых выкладчыкаў, маладзейшых за 60 гадоў, толькі тры чалавекі не працуюць за межамі кафедры: пераклады, рэпетытарства, тэсты, працы на замову, сфера турызму, летам нават будоўлі. Праца ва ўніверсітэце ўспрымаецца як хобі. І гэта нармальна — на тры мільёны асабліва не пражывеш.

Незацікаўленасць студэнтаў, іх нізкі ўзровень — норма сучаснай ВНУ, нават БДУ і БНТУ. Мой прынцып: выбіраю адну-дзве разумныя групы на семестр, і з імі працуем творча. Ім прыемна, што іх вылучылі, ім становіцца цікавей. З астатнімі — па два чалавекі на пытанне, а потым спрабуем прачытаць рэферат. Нездавальняючыя адзнакі стаўлю толькі нахабным, астатнім 4 балы — і да пабачэння.

Напісаўшы ім у адной з мінскіх кантор дыплом за іх грошы, мы лішні раз паказваем месца і каштоўнасць нашай адукацыі. Мадэльная адукацыя — хіт гэтага года ў ВНУ — звяла гісторыю Беларусі да сямі (!) лекцый, прычым, паводле рэкамендацыі Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы, ад Рагвалода да Кацярыны II — адна лекцыя».

**Сяргей**

# Генерал плакаў, калі пачуў песню па-беларуску

Сяргей Макей — палкоўнік запасу Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Ён напісаў вялікую колькасць песень на вайсковую тэматыку. Цяпер яго творы на беларускай мове спяваюць практычна ва ўсіх вайсковых часцях краіны.

**«Наша Ніва»: Дзе Вы нарадзіліся і раслі?**

**Сяргей Макей:** У Валожыне. Менавіта з гэтых мясцін наш класік Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, сучасныя паэты Віктар Шніп, Алесь Пісарык. Пералік можна доўжыць. Я ганаруся тым, што нарадзіўся менавіта там.

**«НН»: З дзяцінства ведалі, кім станеце?**

**СМ:** Выбару прафесіі асабліва і не было. На цяперашні момант насельніцтва Валожына складае каля 14 тысяч, дык вось з іх 3—4 тысячы — вайскоўцы (былыя і дзеючыя) і іх сем'і. Мой лёс быў прадвызначаны. Асяроддзе паўплывала. Ужо ў дзіцячым садзе, калі мяне пыталі: «Кім ты будзеш?», я адказваў, што буду салдатам. Бацька ў мяне быў вайскоўцам, а маці 40 гадоў загадвала бібліятэкай у вайсковай часці. Адным з маіх захапленняў была журналістыка. Напісаў больш за 300 публікацый у розных выданнях. Калі я быў курсантам, які атрымліваў 28 рублёў, я кожны месяц жонцы з дзіцём адсылаў 100 рублёў. Усе гэтыя грошы я зарабляў дзякуючы таму, што пісаў.

Калі я быў камандзірам роты, усё справаводства вялося па-беларуску



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«НН»: Якая ў Вас адукацыя?**

**СМ:** Я скончыў камандны факультэт Чарапавецкага вышэйшага вайсковага інжынернага вучылішча радыёэлектронікі. Паступіў не адразу. Я меў вельмі сур'ёзную траўму хрыбетніка. Чатыры разы паступаў у вайсковае вучылішча. Калі праходзіў медкамісію, доктар паглядзеў на мяне і сказаў: «Непрыдатны». Тады я паступіў у тэхнікум сувязі ў Мінску, але кожны год падаваў дакументы ў вайсковае вучылішча. На чацвёрты раз, калі ў мяне была апошняя спроба, як кажуць, «выйсці замуж», бо да 21 года можна паступаць у вайсковае вучылішча, а мне было ўжо 20, лекар адвёў позірк убок і зрабіў выгляд нібыта мяне не ведае, і напісаў, што я прыдатны. Пэўна, пашкадаваў.

**«НН»: Цяпер з такім намаганнем хлопцы імкнуцца пазбегнуць войска, а ў Вас усё наадварот.**

**СМ:** Я шмат сустракаўся з тымі людзьмі, якія хацелі «адкасіць» ад войска, і з бацькамі іх таксама сустракаўся. Былі такія моманты, калі маці прыходзіла і казала: «Ой, у мяне сыночак такі хворы, такі хворы, у яго скаліёз першай ступені. Ён нічога не можа рабіць, яму спіна баліць. Ён памірае, оёйоёй, вызваліце яго ад службы». У мяне было значна горш, і такія словы, акрамя ўсмешкі, нічога не выклікаюць. Гэта проста звычайная лянота.

**«НН»: Дзеля чаго ў войска ішлі Вы?**

**СМ:** Дзеля таго, каб нешта змяніць у лепшы бок. Хай у сваім узводзе, роце ці батальёне, якімі я ў розны час камандаваў, ці на больш высокіх пасадах, якія займаў. У мяне не было мэты атрымаць льготы ці іншую выгаду. Можа таму я даслужыўся да палкоўніка, звольніўся ў запас, але да гэтага часу жыву ў інтэрнаце, кватэра будуецца, але як хутка атрымаю ключы — не ведаю.

**«НН»: Войска ў грамадстве мае непрывабны вобраз, няўжо ўсё так страшна?**

**СМ:** Трэба ведаць, што моцны ўплыў на меркаванне грамадства мае расійскае войска. Усе веды грамадства наконт арміі засталіся альбо з часоў Савецкага Саюза, альбо падпітваюцца з Расіі. У інтэрнэце асноўны паток інфармацыі пра армію ідзе з Расіі. Але трэба зразумець, што Расія і Беларусь — розныя дзяржавы. І войскі ў іх розныя.

**«НН»: І ёсць нейкае кардынальнае адрозненне?**

**СМ:** Так, безумоўна ёсць, і прычым вельмі моцнае. Гэта вельмі бачна на сумесных вучэннях. Пачынаючы ад дысцыпліны і сканчаючы якасцю баявой падрыхтоўкі. На мой погляд, у Беларусі стан баявой падрыхтоўкі і дысцыпліна значна вышэйшыя. І адносіны паміж вайскоўцамі розняцца. Мы цалкам розныя дзяржавы, і параўноўваць нельга. Недарма кажуць, што правапераемнікам усяго лепшага з войска Савецкага Саюзу з'яўляецца Беларусь, а астатняга — Расія.

**«НН»: Цяпер пра Вашу творчую дзейнасць, з чаго ўсё пачалося?**

**СМ:** Яшчэ ў дзяцінстве скончыў музычную школу, потым граў на бас-гітары ў школьным ансамблі. Першую сваю песню напісаў пра каханне, калі мне было толькі 14 гадоў.

**«НН»: Як Вы прыйшлі да вайсковай песні і разумення таго, што яна павінна быць на беларускай мове?**

**СМ:** У вучылішчы я з першых дзён быў запявалам. Голас у мяне моцны, як кажуць — «камандны», што вельмі дапамагала і ў камандаванні, і ў спевах. Калі я быў камандзірам роты, не цураўся і сам запяваць. Ішоў 1992 год, з'явілася новая дзяржава Беларусь. І перада мною паўстала пытанне: калі мы беларусы, дык што мы павінны спяваць у армейскім шэрагу? Задаўся гэтым пытаннем і пачаў шукаць песні. Пайшоў у бібліятэку, каб знайсці творы, якія можна было б спець. Але нічога не знайшоў. Тады вырашыў перакласці нешта на беларускую мову. Перакладчык з мяне, як высветлілася, не вельмі добры, і нічога не атрымалася. Але тэма той песні пакінула ўва мне адбітак. Пасля я стаў пісаць вершы, потым і музыку. Так атрымалася мая першая беларускамоўная страявая песня.

**«НН»: І як яе прынялі?**

**СМ:** Калі на аглядзе я як камандзір роты, ідучы наперадзе шэрага, заспяваў на беларускай мове, а салдаты выканалі прыпеў, дык генерал, які стаяў на трыбуне, ад нечаканасці і захаплення нават плакаў.

**НН: А як у войску справы з іншымі формамі ўжывання беларускай мовы?**

**СМ:** Той, хто кажа, што ў нашым войску ёсць нейкая забарона на беларускую мову, не звяртае ўвагі на тое, што, напрыклад, падчас прысягі перад вачыма салдата два тэксты на дзвюх мовах. І ён сам абірае беларускую мову ці рускую. Ніхто не забараняе прымаць прысягу па-беларуску. Але робяць гэта адзінкі. Акрамя гэтага, звярніце ўвагу на тыя ўрачыстасці, якія праводзіць Міністэрства абароны. Пачынаючы з парада. Аркестр на якой мове выконвае песню? На беларускай і выконвае. Ніколі не было, каб на расейскай.

## Расія і Беларусь — розныя дзяржавы. І войскі ў іх розныя

**«НН»: Гэта больш пра ўрачыстыя мерапрыемствы, а што тычыцца ўнутранага раскладу ці тых жа самых каманд, вядома, што яны на беларускай мове не аддаюцца.**

**СМ:** Ёсць слоўнік для вайскоўцаў. Можа быць, там не ўсё дакладна перакладзена і ён не ўсім падабаецца, але ён ёсць. На жаль, няма адзінства поглядаў нават у тым, як правільна перакласці каманду «Смирно!» Варта ўлічваць, што колькі людзей, столькі поглядаў на гэтую тэму. Калі я быў камандзірам роты, усё справаводства вялося па-беларуску, а праз год-другі і ва ўсім батальёне.

**«НН»: Ва ўсім была Ваша ініцыятыва?**

**СМ:** Першапачатковая ініцыятыва была мая. І акрамя гэтага — вялікая і цяжкая праца, каб усё перакласці. На маім прыкладзе камбат заахвоціў да гэтай справы і іншых камандзіраў рот. Так што забароны на беларускую мову ў войску не было і няма.

**«НН»: На сваім шляху беларускамоўных вайскоўцаў Вы сустракалі?**

**СМ:** Сустракаў, не скажу, што я такі адзін. Уявіце сабе такую карціну: сяджу я ў кабінеце з іншымі вайскоўцамі, размаўляю на рускай мове, тут тэлефануе мне мой вялікі сябар Зміцер Сасноўскі (кіраўнік гурту «Стары Ольса»), і я пачынаю размаўляць з ім на беларускай мове. У прысутных гэта выклікае здзіўленне, але апошнім часам усё часцей адчуваў павагу і падтрымку.

**«НН»: Колькі ўласных песень маеце Вы?**

**СМ:** Калі размова пра армейскую песню, то дванаццаць. Хацелася б болей. Але вельмі цяжка пісаць на адну і тую ж тэматыку. А чаму б «Нашай Ніве» не правесці ў газеце конкурс на самы лепшы верш пра армію?

**«НН»: Вашы песні ведаюць і спяваюць у розных вайсковых часцях Беларусі. Якім чынам яны папулярызаваліся?**

**СМ:** Спачатку пісалася для роты. Пасля пачалі прасіць з іншых падраздзяленняў, дык я і туды пачаў аддаваць. Пэўна, мае песні кранalі. Я не імкнуся пісаць выкшталцона, нешта закручваць, бо гэта песня вайсковая і яна павінна быць зразумелай і простай.

**Гутарыла Вольга Гарапучык**

**Сяргей Макей**

**Афіцэры**

Колькі раз Вам казалі трэба,
Колькі раз наперад ішлі,
А навокал у зорках неба
І абшар нашай роднай зямлі.

Афіцэры — заўжды афіцэры.
Не чакаюць сабе ўзнагарод.
Недарма афіцэрам даверыў
Лёс зямлі беларускай народ.

Мы на Вас спадзяёмся і верым,
Беларусь нашу больш не спаліць.
Афіцэры — таму Афіцэры,
Што за край родны сэрца баліць.

**Афіцэры Беларусі**

Хто казаў, афіцэры
Толькі робяць кар'еру,
Службу сам не адведаў, не стаяў у страю.
І бясконцыя ночы,
І бяссонныя вочы,
Ўсё аддаць вы гатовы за Радзіму сваю.

Родны кут і бярозы,
Што растуць каля хаты,
Назаўжды ў Вашым сэрцы, як і ты, Беларусь.
І нікому, нікому
Не зняважыць пагоны,
Гонар Ваш не заплявіць ні вораг, ні хлус.

Афіцэры, афіцэры,
Мы да болю ў сэрцы верым,
Беларусь ніхто не зможа больш спаліць.
Афіцэры Беларусі,
Хай ніхто Вас не прымусіць
Здрадзіць роднаму народу і зямлі.

Спадары афіцэры,
Ці паны афіцэры,
Як бы хто ні назваў Вас, як бывала не раз,
Назаўжды застанецеся
Разам з нашым народам,
І народ Беларусі будзе помніць пра Вас.

І пад сцягам Айчыны
Вы прымалі прысягу,
І на Вас, афіцэры, як стагоддзі таму,
Ускладаем надзеі,
Вамі мы ганарымся,
Верым, больш мы не пойдзем
праз боль і суму.

Афіцэры, афіцэры,
Мы да болю ў сэрцы верым,
Беларусь ніхто не зможа больш спаліць.
Афіцэры Беларусі,
Хай ніхто Вас не прымусіць
Здрадзіць роднаму народу і зямлі.

# У Беларусі пачнецца выпуск маянэзаў і соусаў «Батькино лукошко»

Ініцыятарам з'яўляецца **расійскі маркетолаг** Станіслаў Каўфман.

Каўфман не хавае, што такі брэнд у спажыўцоў будзе асацыявацца з Аляксандрам Лукашэнкам. Раней маркетолаг ужо праславіўся «палітычнымі» таварамі — гарэлкай «Пуцінка» і «Вова і мядзведзі» ў Расіі, а таксама ледзяшоў «Юльчыны сасулькі» ва Украіне.

Паведамляецца, што пад брэндам «Батькино лукошко» будуць выпускаць маянэзы, соусы, кансерваваную гародніну і ягады. Але Каўфман мае спадзевы, што лінейка тавараў будзе пашыраная.

Вырабляць прадукты будзе расійская кампанія «Вастэга», што размешчана ў Брэсце (кансерваваныя ягады і гародніна), а таксама падмаскоўны вытворца маянэзаў. Будуць таксама кантракты з іншымі прадпрыемствамі.

«Я ўпэўнены, што асацыяцыі з Аляксандрам Лукашэнкам будуць станоўча ўспрынятыя спажыўцамі», — сказаў Каўфман.

**Зміцер Панкавец**




# «Цмокі»: У тры разы больш перамог, чым летась

Мінскія каманда **захавала прапіску** ў элітнай Адзінай лізе ВТБ.

Міжнародны сезон для баскетбольнай каманды «Цмокі» скончыўся. Атрымаўся ён значна лепшым, чым мінулы.

Тады каманда яшчэ называлася «Мінск-2006», атрымала ўсяго адну перамогу ў Адзінай лізе ВТБ і не прайшла першы раўнд «Еўрачэленджа».

Цяпер жа перамог у ВТБ-Лізе цэлых тры, сярод пераможаных сам віленскі «Жальгірыс», які наводзіць страх у Еўропе. У вырашальнай гульні «Цмокі» перамаглі ў чэшскага «Німбурка» — 72:63. Тым самым каманда Андрэя Крываноса стала перадапошняй і не вылецела з Лігі, апярэдзіўшы літоўскі «Нептунас».

У «Еўрачэленджы» «Цмокі» прайшлі першы адборачны этап упершыню ў гісторыі. Праўда, у другім справіцца з дужымі нямецкімі клубамі не атрымалася.

Змену назвы з «Мінска» на «Цмокі» (па-расейску таксама «Цмокі», а не «Драконы») многія ўспрымалі неадназначна. Тым не менш армія прыхільнікаў каманды відавочна вырасла. «Цмокі» ўваходзяць у пяцёрку самых наведвальных каманд ВТБ.

У складзе каманды ўсяго тры легіянеры: літовец Гінявічус, аўстраліец Маджок і амерыканец Браўн (пагуляў нават у НБА). Здаецца, такая лічба «варагаў» найбольш адэкватная. З беларусаў вылучаецца Аляксандр Кудраўцаў.

Калі ўдасца захаваць сённяшні склад плюс кропкава ўмацаваць некалькі пазіцый, то налета можна будзе разлічваць на большае, чым тры перамогі.

**ЗП**




Аляксандр Кудраўцаў: галоўная зорка «Цмокаў».

# Дэпард'ё прамяняў Расію на Бельгію

Акцёра Дэпард'ё, мабыць, заела туга па радзіме. Жыць у Расіі ён не будзе. Не дапамог ні ўручаны асабіста прэзідэнтам Расіі пашпарт, ні падораныя кватэры ў Грозным і Саранску, ні абяцанні працаўладкавання.

Ён заявіў, што любіць Расію і Францыю, але жыць мае намер у Бельгіі. Дэпард'ё вырашыў пасяліцца ў невялікім мястэчку Нэшэн на поўдні Бельгіі, недалёка ад французскай мяжы. Там пралягае чыгунка, якой можна хутка дабрацца да Парыжа.

Дарэчы, ён ужо набыў там чарговы дом і аформіў дакументы на жыхарства. Акрамя таго, Дэпард'ё паведаміў аб сваім намеры адкрыць у Нэшэне невялікі рэстаран.

**Сямён Цыбульскі**

Дэпард'ё з расійскім пашпартам.





**Камертон Сяргея Ваганава**

# Па кім маўчыць звон

На мінулым тыдні адзначаліся 70-я ўгодкі хатынскай трагедыі. Ад улады шчыраваў на мітынгу-рэквіеме сп.Кабякоў. Прамармытаўшы нешта звыкла няўцямнае пра памяць аб загінулых, ён запэўніў журналістаў, што «...кіраўніцтва краіны робіць усё, каб у нас не скралі перамогу...»

«Перамогу», мабыць, скрала нейкая дзяўчына з Барысава, з тамтэйшага медкаледжа. З нервовым хіхіканнем адказваючы пад дыктоўку настаўніцы на пытанне, дзеля чаго яе разам з іншымі навучэнцамі прывезлі ў Хатынь, дзяўчо зусім заблыталася паміж рэквіемам і юбілеем, трагедыяй і святам.

Узгадалася, як упершыню я прывёз у Хатынь унучку. Праз 15 гадоў ад яе нараджэння і роўна праз 65 — ад хатынскай трагедыі.

Не магу сказаць, што прапанову паехаць у Хатынь яна ўспрыняла з вялікім жаданнем. «Нам у школе расказвалі... Але калі хочаш, давай з'ездзім».

У Хатыні яна прыціхла, адасобілася, абмінаючы групкі экскурсантаў і затрымліваючыся каля комінаў і калодзежаў, у якіх скурчыліся на зацягнутай лядком вадзе беларускія дваццаткі ды старублёўкі, а важкія замежныя манеты паблісквалі на дне... Потым стала фатаграфаваць аблокі. Дакладней, неба, па якім павольна напаўзалі адно на адно цёмныя аблокі, неахвотна прапускаючы ў блакітныя нябесныя праталіны прахалодны сакавіцкі прамень... Раптам спытала: «Дзеда, а чаму ў Хатыні няма крыжа?»

У Хатыні былі крыжы. Тры крыжы на трох магілах, у якіх праз тры дні пахавалі хатынцаў жыхары навакольных вёсак...

Не ўсе ведаюць, а мне расказвалі ацалелыя малалеткамі Уладзімір Яскевіч і абодва Жалабковічы — Віктар і Аляксандр, — што Хатынь спалілі двойчы. Апошні раз у жніўні. Мусіць, таму, што сюды вярнуліся тыя, хто па выпадковасці пазбег неймавернай кары, каго ў вёсцы не было на той дзень... Выкапаў зямлянку паблізу магіл Рудак. Пазбіраўшы апаленыя бярвенні, паставіў хатку Клімовіч. Па вясне зарунелі азімыя — яшчэ з таго, мінулага жыцця. Але і ў гэтым, згубленым, здавалася, назаўсёды, яны пасадзілі бульбу, пасеялі жыта...

Аляксандр Жалабковіч успамінаў, як у тым палаючым жніўні гарэлі снапы. Тады ж, мімаходзь, карнікі спалілі і крыжы на магілах.

Былі яшчэ крыжы ў Хатыні — на старадаўніх вясковых могілках. Калі будавалі мемарыял, могілкі зрылі. Разам з крыжамі. Вядома, на тых могілках даўно ўжо не было каго хаваць. Але даўнія, д а х а т ы н с к і я магілы — з прозвішчамі і межамі жыцця — яшчэ былі. Сёння, гавораць, дзякуючы вернікам з парафіі лагойскага касцёла, яны быццам адноўленыя. Але я памятаю, як смуткавалі Яскевіч і Жалабковічы: навошта было знішчаць старадаўнія хатынскія могілкі, на якіх спачываў вясковы род, што спрадвеку жыў на гэтай зямлі?..

## Замест Хатыні — «Хатынь». Выдатны твор манументальнага мастацтва

Навошта было пазбаўляць Хатынь каранёў і сувязі з небам?!

Але атрымалася тое, што атрымалася: замест Хатыні — «Хатынь». Выдатны твор манументальнага мастацтва.

Толькі вось крыжа няма.

Мне здаецца, што калі б 70 гадоў таму ў Хатыні ўзвялі крыж, не руйнавалі б сёння крыжы ў Курапатах і не малявалі б свастыку ў «Яме».

І яшчэ: мне здаецца, што калі б тады ў Хатыні ўзвялі крыж, мы не спальвалі б уласную гісторыю ў ідэалагічных топках, не пераўтваралі б трагедыі ў святы, а Памяць у попел...

Але крыжа няма. І зноўку пляцецца вакол беларускіх трагедый — ад БНР праз Курапаты, Хатынь і да Чарнобыля — вытанчаная сетачка фальшу.

Учора — пра камандзіра карнікаў Васюру, які нібыта быў «заходнеўкраінскім нацыяналістам». Сёння — пра «перамогу», якую нібыта хтосьці намагаецца «скрасці» ці то ў кіраўніцтва краіны, ці то ў сп.Кабякова...

Але ж не быў Васюра ані заходнеўкраінскім, ані наогул нацыяналістам. Да вайны, да Хатыні, і пасля вайны, да выкрыцця — «просты савецкі чалавек».

А курапацкія карнікі — ці ж не «простыя савецкія людзі»?!

Але прызнаць гэта — значыць, прызнаць злачыннасць абодвух таталітарных рэжымаў. І паставіць, нарэшце, знак трагічнай роўнасці паміж Хатынню і Катынню, паміж Хатынню і Курапатамі...

...«Гэта ад ветру, дзеда? — уздрыгнула, пачуўшы кароткі металічны звон, унучка. «Не, ад электрычнасці», — патлумачыў я.

А сам падумаў: калі б ад ветру, хатынскі звон званіў бы не сціхаючы. Таму што не сціхае над Хатынню вецер беларускай гісторыі, нясе над ёй цёмныя, з блакітнымі праталінамі, аблокі...

Але маўчыць звон у прамежку паміж кіраванымі сігналамі. Маўчыць па мільёнах загубленых жыццяў.

І не пытайся, па кім яшчэ маўчыць звон.

Ён маўчыць па табе.

*kamerton_41@mail.ru*

# Беларус на Ямале: «Я жыву ў бочцы»

Жыхар Салігорска Павел Батуеў восьмы месяц працуе **ў Запаляр'і.**

Ён падзяліўся з «НН» уражаннямі ад няпростага і захапляльнага жыцця на Поўначы.

### «На мне восем кіламетраў цеплатрасаў»

У Беларусі Павел працаваў ахоўнікам у краме, электраманцёрам і мантажнікам, прарабам. Ён даўно марыў патрапіць на Поўнач, а тут акурат пазнаёміўся з людзьмі, якія працавалі на Ямале. «Я прыехаў летась у жніўні. З беларускага спякотнага лета ў лета запалярнае, якое па тэмпературы больш нагадвае сярэдзіну кастрычніка», — расказвае Павел.

На Ямале ён пасяліўся ў пасёлку Сё-Яха, назва якога перакладаецца як «Пявучая рака». Мясцовыя жыхары разводзяць аленяў, ловяць рыбу і палююць.

Батуеў уладкаваўся майстарам участка цеплазабеспячэння. У яго падпарадкаванні тры кацельні, станцыя ачысткі вады і амаль восем кіламетраў цеплатрасаў.

Прачынаецца Павел у 7.50. У яго ёсць каля гадзіны часу, каб трапіць у офіс на планёрку. Працоўны дзень цягнецца ад 9 да 18-й, але часам даводзіцца рабіць пазапланавыя праверкі аб'ектаў, у тым ліку і начныя. Мясцовы клімат не шкадуе нікога і нічога, таму часта трэба ехаць на рамонт цеплатрасаў.

«Народная прыкмета: калі планёрка пачынаецца са слова «нуштоб...» — гэта да доўгага і напружанага працоўнага дня». (З допісаў у Фэйсбуку.)

### Бочка-кватэра з электрычнасцю, вадой і wi-fi

На Поўначы многія жывуць у вялізных бочках. Спачатку Павел не наважваўся засяляцца ў такое жытло. Але потым высветлілася, што, калі ў цябе рукі растуць адкуль трэба, бочка можа стаць утульным прытулкам. Звонку яна металічная, усярэдзіне абшытая дрэвам, ці прэсаванай кастрой. Паміж металам і дрэвам месціцца адмысловы напаўняльнік. Па плошчы бочка параўнальная са стандартнай аднапакаёўкай. Тут ёсць электрычнасць, вада, каналізацыя і нават wi-fi — нятанны, але эфектыўны. Інтэрнэт — ці ні адзіная крыніца сталай сувязі з радзімай. Павел піша электронныя лісты і актыўнічае ў сацыяльных сетках, дасылае SMS і зрэдку тэлефануе.

Вольнага часу ў яго небагата. Некалькі разоў на тыдзень удаецца пагуляць у тэніс у спартзале пры офісе або ў баскетбол ці валейбол у мясцовай школе. Рэшту адпачынку Павел траціць на фільмы і кнігі.

Да Паўлавага жытла прыбіўся сабака Шарон. Вялізны касматы звер з незалежным характарам і сумнымі вачыма спачатку трымаў дыстанцыю, а цяпер адганяе ад новага гаспадара чужых сабак — раўнуе.

«Нягледзячы на салігорскае паходжанне, да сённяшняга дня я не ўмеў карыстацца шпрыцам. Тры дні таму захварэў мой сабака, і вось сёння дрыжачымі рукамі ветэрынара-пачаткоўца зрабіў яму ін'екцыю». (З допісаў у Фэйсбуку.)

### Інтэрнэт-крамы на краі зямлі

На Ямале Паўла шмат што ўражвае. Менавіта тут ён зразумеў, што выраз «чужое неба» — зусім не трызненне сентыментальных асобаў. Паўночнае неба такое нізкае, што аблокі нібы навісаюць над самай галавой.

Тундра ўражвае сваёй бясконцасцю, тысячамі рэкаў і азёраў, адсутнасцю дрэваў.

Заход сонца фантастычна прыгожы, але яшчэ большую радасць выклікае яго доўгачаканае вяртанне пасля бясконца доўгай палярнай ночы.

Суровы і непрадказальны клімат. Можна ўбачыць, як удалечыні ідзе дождж, а праз дзесяць хвілін быць мокрым да ніткі, а яшчэ праз пяць зноў будзе свяціць сонца.

Уражвае тое, што на вуліцы можна ўбачыць людзей у нацыянальнай вопратцы, якія прыехалі на аленях з тундры.

На краі зямлі (так з ненецкай мовы перакладаецца слова «Ямал») людзі ў інтэрнэт-крамах за электронныя грошы вольна набываюць тавары, і гэты бізнэс тут развіты куды лепш, чым у Беларусі.

«Сёння мае ўстаць сонца. Ажно 47 хвілінаў прабудзе на небе. Палярная ноч такі скончылася». (З допісаў у Фэйсбуку.)



Павел Батуеў і сабака Шарон.

### Што такое сапраўдная зіма

Пасля нашэсця снежнага шторму на Беларусь землякі вырашылі пажартаваць з Паўла, даслаўшы яму фотаздымкі «сапраўднай зімы». У адказ ён расказаў, што такое шторм на Ямале, на прыкладзе апошняй снежнай навалы.

«Ніхто не прысвойваў ёй чырвоны статус, але слова «п***ц», якое неадноійчы прагучала нават з вуснаў старых ненцаў, характарызуе тую пургу выразней за любыя колеры-статусы». Ноччу Павел некалькі разоў прачынаўся ад адчування, нібы ехаў на трактары па вясковай дарозе — так хістала ягонае жытло. Потым моцна грукнула: на бочку зваліліся часткі даху з будынка, што знаходзіцца за сотню метраў. «Нам пашанцавала, а іншым абломкамі папрабівала сцены, дахі, а самы вялікі кавалак праляцеў каля 120 м і прабіў трубу цеплатрасы — 4 мм сталі. Самыя дальнабойныя кавалкі праляцелі з 800 м і павыбівалі шыбы ў дзвюх машынах».

А 6-й раніцы яго выклікалі на працу. Вецер не даваў дыхаць, нібы ён на хуткасці высунуў галаву з машыны. Бачнасць — пару метраў, ісці даводзілася навобмацак.

У гэты дзень проста ў пасёлку згубілася жанчына. Яе знайшлі — патэлефанавала брату, а ён арганізаваў пошукі.

Дарога да аб'екта заняла паўгадзіны замест звыклых 5 хвілін. Па дарозе на офіс Паўла, 108-кілаграмовага мужыка, збівала з ног, а ў адным месцы яму давялося паўзці на карачках паўсотні метраў. Потым ён даведаўся дадзеныя метэастанцыі: —25°С, вецер з парывамі да 47 м/с.

...Вецер сціх нечакана. Акурат праз суткі, як пачаўся. У вушах ажно звінела ад раптоўнай цішыні. Пасёлак выглядаў нібы пасля вайны.

### «Недзе далёка ёсць такая краіна»

З мясцовымі жыхарамі ў Паўла адносіны нармальныя. Паабяцалі навучыць яго сваёй мове, але пакуль што справа далей за пераклад прозвішчаў калегаў на працы не пасунулася. Пра Беларусь тут ведаюць няшмат — недзе далёка ёсць такая краіна.

Пра далёкую радзіму Паўлу не дае забыцца ягоная дзяўчына Маруся, якая прыехала з ім на Поўнач з Салігорска. Адна з чатырох пасялковых крамаў належыць беларусу, яшчэ адна мае экзатычную для тутэйшых мясцін назву «Белорусская ярмарка», але ўласна беларуская ў ёй толькі прадавачка.

Усё неабходнае для жыцця і выжывання ў пасёлак дастаўляецца па вадзе і паветры. Аднойчы Павел сустрэў тут верталётчыка з Віцебска.

### «Сёння пабачыў аленя цалкам, а не на патэльні»

Аснову мясцовай кухні складаюць рыба і аленіна. Сырую пячонку аленя, мясцовы ласунак, Павел пакуль не адважыўся пакаштаваць, а вось сырую рыбу палюбіў. Самая экзатычная рыбная страва на ягоны выбар — айбат. Гатуецца звычайна з рыбы муксун. З замарожанай рыбіны здымаюць скуру, наструґваюць нажом кавалачкі — і можна есці. Ядуць рыбу, мачаючы ў соль з перцам. Вельмі смачная маласольная рыба. Для гэтага яе рэжуць вялікімі кавалкамі, пасыпаюць соллю і даюць прасаліцца некалькі гадзін.

З мяса тут толькі аленіна — сырая і гатаваная. Аднойчы Павел выклаў у сацсетцы фота запрэжкі аленяў і падпісаў яго «За паўгода на Ямале першы раз зблізку пабачыў аленя не на патэльні, а цалкам».

Каб не забыцца на родныя стравы, Павел час ад часу робіць дранікі. Але на Поўначы гэта сапраўдны далікатэс — бульба тут вельмі дарагая і не заўсёды яе можна купіць. Харчовыя пасылкі з радзімы ён не атрымлівае: гэта і дорага, і нявыгадна — пошта ідзе месяцамі.

Павел пакуль не вызначыўся, колькі будзе працаваць на Поўначы: «Пакуль дакладна не магу адказаць, як доўга тут пратрымаюся. Магчыма, пару год».

Заробак ягоны пакуль што даволі сціплы па мясцовых мерках. Гэта тлумачыцца ягоным стажам. На Поўначы з-за складаных умоваў працы выплачваюцца вялікія даплаты — да 80% ад асноўнага заробку. Чым даўжэй тут працуеш, тым больш зарабляеш. Павел кажа, што ў Беларусі зарабляў амаль утрая менш. З іншага боку, на Поўначы значна даражэйшыя харчы і камунальныя паслугі.

Ці змяніліі яго няпростыя ўмовы працы на Ямале, ён пакуль не заўважыў: «Паглядзім, што скажуць сябры пасля вяртання на Радзіму. Для беларусаў тут нічога складанага. Ну, хіба зіма можа падасца занадта суровай, але ж яна толькі восем месяцаў».

**Сямён Печанко**



Паўночных аленяў Павел часцей бачыць на патэльні, чым жыўцом.

# На бальнічным, але замену знайшлі

Дырэктар «Славянскага базару ў Віцебску» **месяц адсутнічае** на працы.

З пачатку сакавіка вядуцца размовы пра сыход Радзівона Баса з пасады кіраўніка фестывалю. Некаторыя пагаворвалі нават пра крымінальную справу супраць яго. Маўляў, разам з ім звольнілася і бухгалтарка — значыцца, не ўсё чыста. Але крымінальнай справы няма.

Бас узначальвае цэнтр культуры «Віцебск», які праводзіць «Славянскі базар». Яшчэ тры тыдні таму ягоная жонка Вольга Сальнікава паведаміла, што муж знаходзіцца ў бальніцы. Мы патэлефанавалі Вользе Сальнікавай, каб пацікавіцца наконт стану мужа і звальнення: да сёння яго няма на працы. «Я карэспандэнтам нічога не буду казаць. Тэлефануйце ў цэнтр «Віцебск» альбо аддзел культуры гарвыканкама — там усе дакументы. Магу толькі пацвердзіць, што Радзівон Міхайлавіч на бальнічным», — заявіла яна.

Разам з тым, в.а. гендырэктара «Віцебска» прызначаны Аляксандр Сідарэнка. Яшчэ нядаўна ён працаваў намеснікам начальніка ўпраўлення культуры Віцебскага аблвыканкама. А пры пераводзе заняў пасаду першага намесніка Баса (да гэтага намесніцай была жонка). «НН» пагаварыла з Сідарэнкам. Ён пакуль не ведае, ці зойме пасаду гендырэктара: «Не магу так далёка заглядваць». І патлумачыў, што генеральным застаецца Радзівон Бас: «Ён ёсць, хаця і на бальнічным. І пакуль яго не звальнялі». Ён таксама аспрэчыў, што звольнілі Вольгу Сальнікаву.

**Сяргей Макарэвіч**



**Радзівон Бас**

музыка, прадзюсар. Нарадзіўся ў 1952 у Віцебску. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі. Кіруе Міжнародным фестывалем мастацтваў «Славянскі базар» дваццаць гадоў. Ганаровы грамадзянін Віцебска.

**Страсянуць фестываль**

На прэс-канферэнцыі ў студзені Аляксандр Лукашэнка раскрытыкаваў «Славянскі базар». «Можа быць, знутры трэба самакрытычна паглядзець. Хацелася б, гэта маё цвёрдае перакананне, каб мы там убачылі нешта новае. Калі мы бачым на РТР, АРТ, АНТ, што круцяцца адны і тыя ж артысты, з тымі ж заезджанымі пад фанаграму музычнымі кампазіцыямі, я гэта ўспрымаю крытычна. Трэба нешта рабіць, рэфармаваць... У гэтым годзе трэба паспрабаваць страсянуць «Славянскі базар», каб людзі, якія любяць яго, сказалі: так, ёсць нейкі рух».

**Вышук**



АУС Ленінскага раёна Гродна расшуквае **Хавіна Рыгора Барысавіча**, 1971 года нараджэння. Ён падазраецца ў незаконным звароце наркотыкаў, псіхатропаў альбо прэкурсараў.
Хто ведае знаходжанне падазраванага, тэлефанаваць на: (0152) 79-74-19, (029) 788-59-48.



**Ягоўдзік Віктар Міхайлавіч**, 1974 года нараджэння, расшукваецца Слонімскім РАУСам. Ён падазраецца ў нанясенні цяжкіх цялесных пашкоджанняў, што пацягнулі за сабой па неасцярожнасці смерць. Прыкметы: рост каля 178 см, сярэдняга целаскладу, твар авальны, валасы русыя, вочы цёмныя.
Каму вядома месцазнаходжанне Ягоўдзіка, патэлефануйце на нумары: (01562) 5-52-00, (029) 674-04-54.



**Галушкін Валерый Мікалевіч**, 1943 года нараджэння, 13 кастрычніка 2012 пайшоў з дому ў Гродне і не вярнуўся. Прыкметы: рост каля 172 см, сярэдняга целаскладу, валасы сівыя. Быў апрануты ў светла-зялёную куртку, цёмна-сінія джынсы, скураныя чорныя туфлі.
Хто нешта ведае пра Галушкіна, тэлефануйце ў АУС Кастрычніцкага раёна Гродна на нумар (0152) 79-78-05.

# МАЗ насмерць збіў медсястрычку на пешаходным пераходзе

Здарэнне адбылося **ў Маладзечне** 21 сакавіка каля 16.30 на пераходзе на чыгуначны вакзал з вуліцы Прытыцкага.

Ад знаёмых маладой жанчыны вядома, што яна працавала медсястрой. Не так даўно выйшла замуж. У сям'і была адзінай дачкой. Ёй было 23 гады.

На наступны дзень на месцы аварыі гарэлі свечкі, стаяў вянок.

Паводле сведчанняў відавочцаў, у момант наезду дзяўчына размаўляла па мабільным тэлефоне.

«Гэта, вядома ж, не здымае адказнасці з кіроўцы транспартнага сродку, аднак і пешаходам патрабуецца больш уважліва ставіцца да ўласнай бяспекі, — гаворыцца ў паведамленні УДАІ МУС. — Пераходзячы праезную частку нават па рэгуляваным пешаходным пераходзе на зялёны сігнал святлафора, пераканайцеся ў бяспецы здзяйснення дадзенага манеўра».

**«Рэгіянальная газета»**



## 16-гадовая дзяўчына абвінаваціла свайго хлопца ў нявернасці і паплацілася жыццём

Хлопец прыехаў у госці да сваёй каханай у вёску Цішоўка (Магілёўскі раён) і застаўся на ноч. Раніцай паміж імі ўспыхнула сварка.

Паводле слоў госця, дзяўчына часта яго раўнавала. Пачуўшы абвінавачванні ў нявернасці ў чарговы раз, пакрыўджаны хлопец узяўся за нож.

Параненую гаспадыню дома знайшла бабуля толькі праз некалькі гадзін. Яна выклікала міліцыю і хуткую дапамогу. Пацярпелая была дастаўлена ў Магілёўскую абласную бальніцу, але выратаваць яе дактарам не ўдалося.

Хлопец затрыманы. У дачыненні да яго аддзел Следчага камітэта распачаў крымінальная справа

**БелТА**

## Трое дзяўчат вывезлі сяброўку ў мароз у лес, забралі абутак і кінулі замярзаць

Інцыдэнт здарыўся на **Дзень святога Валянціна**.

Прыкладна за месяц да гэтага паміж дзвюма жыхаркамі Светлагорска адбылася сварка. 21-гадовая дзяўчына затаіла крыўду на сваю 19-гадовую знаёмую і вырашыла ёй адпомсціць.

Пад'ехаўшы да яе 14 лютага прыблізна ў 23.00 на асабістым аўтамабілі, яна прапанавала 19-гадовай дзяўчыне правесці час у кафэ і пагутарыць «па душах». Дзяўчына згадзілася, аднак у машыне яе чакалі сяброўкі «мсціўцы».

Яны вывезлі пацярпелую ў лес за горад, збілі, знялі абутак, зламалі абцасы, адабралі мабільны тэлефон і пакінулі ахвяру ў начным лесе.

Пацярпелая здолела дабрацца да найбліжэйшай вёскі, дзе папрасіла дапамогі.

Супрацоўнікі Светлагорскага РАУСа знайшлі падазраваных у тую ж ноч — яны адзначалі Дзень закаханых у адным з мясцовых бараў.

**БелаПАН**

## Сцісла

**Замарожаныя немаўляты нарадзіліся мёртвымі**

Да такой высновы прыйшлі эксперты. Яны ўстанавілі, што трупы дзетак, што знайшлі ў халадзільніку памерлай ад раку мінчанкі, генетычна належалі ёй. А нарадзіла іх — дзвюх дзяўчынак і хлопчыка — ад аднаго мужчыны, даношанымі, але мёртвымі. Эксперты мяркуюць, што жанчына не звярталася ў радзільню.

**Палудню далі тры з паловай года**

Былы намеснік міністра ўнутраных спраў Беларусі — начальнік міліцыі грамадскай бяспекі Яўген Палудзень прысуджаны да трох з паловай гадоў турэмнага зняволення. Асудзілі яго за злоўжыванне ўладай.

**VIP'ы пабіліся з міліцыянтамі**

Двое жыхароў Дзяржынска нападпітку вырашылі пакрасавацца перад сваімі дзяўчатамі. Калі выйшлі з рэстарана, пачалі свістаць і лаяцца на міліцэйскі патруль, што стаяў убаку. Калі тыя зрабілі заўвагу, палезлі біцца. Міліцыянтаў так пакалашмацілі, што падралі ім форму. Уціхамірыць задзіраў атрымалася толькі пасля прыезду другога патруля. Цяпер затрыманым пагражае турма. Да слова, старэйшы з іх кіруе ў Дзяржынску СТА, а малодшы працуе галоўным інжынерам у мясцовай фірме. Такі вось VIP'аўскі дэбош.

**Рабаўніца спужалася і збегла**

Работніца «Беларускага народнага банка» ў Мінску выходзіла з абменніка, калі невядомая жанчына ўшчухнула яе ўсярэдзіну. Пырснуўшы газавым балончыкам, яна запатрабавала аддаць грошы. Работніца ж дала адпор рабаўніцы, а тая адразу і ўцякла. Ідзе расследаванне.

**КМ**

# Як беларусы называлі дзяцей 500 гадоў таму

«Трэба вярнуць ва ўжытак старыя беларускія імёны, якія так вылучалі наш народ», — заклікаў чытач «Нашай Нівы» Альгерд Крывец з Масквы ў артыкуле, апублікаваным на сайце газеты. Аўтар прапануе «ўдыхнуць новае жыццё ў імёны нашых старажытных уладароў і герояў: Міндоўг, Альгерд, Вітаўт».

Праблема актуальная, лічыць гродзенскі гісторык **Андрэй Вашкевіч**. Аднак ён раіць звяртацца па прыклады не да сівой мінуўшчыны, а да часоў Скарыны, «залатога веку» Вялікага Княства Літоўскага.

Якія ж імёны давалі дзецям продкі беларусаў? У попісе Гродзенскай каралеўскай эканоміі 1550-х пералічваюцца праваслаўныя сяляне, што жылі на каралеўскай зямлі. Іх імёны можна падзяліць на тры выяўныя групы.

**Папулярныя і сёння**

Ігнат, Андрэй (Андрусь, Андрыяш), Антон, Станіслаў (Станька), Раман, Павел, Максім, Мікалай, Тарас, Ясь (Янук, Іван, Івашка, Іванец), Сяргей, Дзмітрый, Аляксей (Алехна), Грышка, Васіль, Сенка (мабыць, ад Арсень), Санюк (ад Аляксандр).

**Напаўзабытыя**

Панас, Марцін (Марцішка), Гаўрыла, Ярома (Ярэма), Карп, Піліп, Астап, Анупрэй, Амяльян (Мяльян, Мялян), Яўсей (Аўсей), Зіноў (ад Зіновій), Селівон, Астап (Астапец), Здан (Ждан), Парфён, Ешка (ад Іосіф, Язэп).

**Зусім забытыя**

Мілан, Яч (Ячка), Гашчыла, Дзешка, Мажэйка, Будзька, Вялічка, Мел (Мель), Крас, Насута, Войтка, Жук, Бел (Бель), Місюк, Грынь, Бацечка, Юргель, Хілімон, Лют (Люцік), Галаўня, Нарко, Палуян, Гапон, Каленік, Конан, Малафей, Голуб (Галубец).

### Наркоў было больш за Сяргеяў

Некаторыя з «зусім забытых» маюць славянскі, іншыя балцкі корань (як Мажэйка — ад літоўскага mažas, малы). Такія імёны захаваліся ў форме прозвішчаў, якія якраз тады пачыналі фармавацца ў беларусаў.

Сёння цяжка паверыць, але пяцьсот гадоў таму імя Нарко было нашмат больш папулярным, чым, скажам, Сяргей, а Мілан і Конан паспяхова канкуравалі з Васілём і Дзмітрыем, адзначае Вашкевіч. А Амяльянаў, Гаўрылаў, Астапаў было ўвогуле незлічона.

Матэрыялы сялянскіх перапісаў даюць мала інфармацыі пра жаночыя імёны, бо жанчыны радзей валодалі зямлёй. Сустракаюцца Соф'я (Зоф'я, Зося), Анастася, Ганна, Марыя, Уліта, Валіянта, Матрона, Дося, Галуба, Лішка, Касюта. Больш імёнаў жыхарак ВКЛ трапляецца ў запісах аб нараджэннях, смерцях, памінальных запісках, змешчаных на палях кніг XVI— XVII ст.: Хадора, Усціння, Агаф'я, Марыя, Тацяна, Лукерыя, Алена, Матруна, Арынія, Марушка, Домна, Тэрэса, Любка, Анна, Палагія, Ірсціна, Куліна, Марэна, Марта, Галя, Кацярына, Гарпіна, Еўдакія, Гафея, Параскева, Пазея, Вуўдзея, Арына, Марухна, Варка, Еўга, Настасся, Васіліса...

Па тагачасных беларускіх імёнах бачна, якой мовай гаварылі іх носьбіты, адзначае Вашкевіч. Таксама часам імя дазваляла меркаваць пра век, сацыяльны статус, нават характар. Гэта відаць па наступных асаблівасцях.

**Ніякага «Ф»**

Былі толькі Хведзь, Хведзька, Ходар, Хведар або Тодар (а не Фёдар), Хама, Тамаш (а не Фама), Трахім (а не Трафім). «Ф», дарэчы, — гук нетутэйшы, грэцкі. Ён прыйшоў у нашу мову разам з перакладнымі хрысціянскімі кнігамі. Нельга сказаць, што беларускі народ да канца асвоіў яго і сёння: на Гомельшчыне дагэтуль кажуць «хвартух» і нават «шахвёр».

**Марцішка — маленькі Марцін**

Тыя імёны часам гучаць смешна для нас сёння, але прадзеды з «Марцішкі» або «Галубца» не смяяліся. Вашкевіч выказвае версію, што імя магло эвалюцыянаваць разам з векам чалавека: Андручок — Андрусь — Андрэй — Андрыяш. Магчыма, і Скарына.



**Арыгінальнае беларускае гучанне**

Беларуская мова адаптавала пад свае нормы вымаўлення ўніверсальныя хрысціянскія імёны: Себасьцьян рабіўся Савашчанам, Елізарый — Алізарам, Варфаламей — Баўтрамеем, Яўлампій — Еўлашам.

**Селянін Абрам**

Сустракаліся сярод сялян і тыпова «біблійныя» імёны — Майсей, Абрам, Адам, Сава, Лука.

**Шляхта выбандала**

Шляхта часцей ужывала імёны, якія карыстаюцца папулярнасцю і сёння, кажа Вашкевіч. Магчыма гэта было звязана з тым, што сялянскаму дзіцяці поп даваў імя выключна па святках, а шляхціц мог «адкупіць» свайго малога, і той станавіўся не Малафеем, а, напрыклад, Раманам.

## Сцісла

**«Дэбюты» года: Адамовіч, Шарова і Янкута**

21 сакавіка маладым пісьменнікам уручылі прэмію «Дэбют». Яе атрымалі паэт Андрэй Адамовіч за зборнік «Дзень паэзіі смерці дзень», празаік Юлія Шарова за раман «Don Giovanni, альбо Памілаваны свавольнік» і перакладчыца Ганна Янкута за «Калядны харал» Чарльза Дыкенса. Спецпрэмію журы «за найлепшы крэатыў» атрымаў журналіст Глеб Лабадзенка, які сёлета выдаў кнігу «Дзіцячая ЗаМова» — ілюстраваны дапаможнік па вывучэнні складаных момантаў беларускай мовы.

**У Вільні згадалі Каліноўскага**

Ужо чацвёрты год у Вільні адзначаецца Дзень памяці Кастуся Каліноўскага. Начальнік вызвольнага паўстання быў пакараны смерцю на Лукішскім пляцы 22 сакавіка 1864. Пахаваны ён на Гедымінавай гары. 23 сакавіка моладзь прайшла шэсцем са сцягамі ад месца страты да магілы нацыянальнага героя. На магіле запалілі знічы, пасля была імша за душу Каліноўскага ў храме Святой Тройцы.

**У Гродне выдалі ўспаміны Зоські Верас**

У кніжнай серыі «Гарадзенская Бібліятэка» выйшла кніга «Зоська Верас. Я помню ўсё». У кнізе друкуюцца ўспаміны, прыватная карэспандэнцыя, фота, удзельніцы нашаніўскага адраджэння пачатку XX ст. і сяброўкі Рады БНР. Кнігу ўклаў Міхась Скобла.

СМ



ТАА «Ірвінга Група», УНП191751509

# МТС: тарыф — «Дзіцячы», аплата — недзіцячая?

**У маёй сям'і паслугамі МТС карыстаюцца ўсе, хто мае мабільныя тэлефоны.**

У жніўні 2008 кампанія МТС абвясціла пра запуск новага тарыфнага плана «Дзіцячы», распрацаванага адмыслова для дзяцей. Пры падключэнні або пераходзе на тарыф «Дзіцячы» абаненту неабходна было прад'явіць пацвярджэнне наяўнасці дзяцей ва ўзросце да 14 гадоў.

У маёй сям'і паслугамі МТС карыстаюцца ўсе, хто мае мабільныя тэлефоны. Таму на тарыф «Дзіцячы» падключылі старэйшую дачку, якой на той момант было 8 гадоў.

Рэгулярна я ўносіў на асабісты рахунак яе мабільнага тэлефона невялікія, але дастатковыя для падтрымання камунікацыі сродкі. Пакуль не здарылася нечаканае.

Некалькі дзён таму мая жонка атрымала ліст з галаўнога офіса СТАА «Мабільныя ТэлеСістэмы». Гэта была прэтэнзія аб пагашэнні запазычанасці (у парадку дасудовага вырашэння справы).

На наша здзіўленне, запазычанасць у некалькі сотняў тысяч рублёў утваралася на нумары, якім карысталася дачка.

У працэсе хатняга следства, праведзенага нашымі сумеснымі з жонкай намаганнямі, высветлілася, што каля двух месяцаў таму на мабільны тэлефон дачкі паступілі смс-паведамленні махлярскага зместу. У іх невядомы адпраўнік прасіў дачку адправіць яму ў адказ смс, у якім адказаць станоўча на розныя пытанні (словам «так»). З аповеду сваёй дачкі я зразумеў, што нумар мабільнага тэлефона стаў вядомы ашуканцам з сацыяльнай сеткі «Укантакце», дзе яна зарэгістраваная. Мая дачка, не падазраючы аб падмане, паслала некалькі (да дзесяці) смс-паведамленняў на паказаны кароткі нумар.

У выніку баланс на тэлефоне паменшыўся на 500 тысяч рублёў.

Аб тым, што адбылося, дачка нам не паведаміла. Пабаялася. Што цалкам зразумела, улічваючы яе век. За апошнія пару дзён запазычанасць скарацілася. Нязначна. Пару разоў на рахунак паклаў грошы я (ні пра што не падазраючы), адзін раз жонка, асноўную ж суму ўнесла ў кошт пагашэння доўгу сама дачка з тых грошай, якія мы давалі ёй на кішэнныя выдаткі. Зрэшты, гэтых укладанняў не хапіла, каб пагасіць доўг цалкам.

Першай думкай было: расплаціцца і забыцца. З кім не бывае. Задумацца прымусіла жонка, успомніўшы, што дамова была заключаная з ёй у адносінах да дзіцяці, а сам тарыфны план называўся «Дзіцячы».

Зарэгістраваўшыся на сайце МТС, я вывучыў дэталі асабістага рахунка мабільнага тэлефона дачкі. Аказалася, што паслуга па адпраўцы дарагіх смс была прадастаўлена ў той момант, калі на рахунку ў тэлефоне не было сродкаў (я яшчэ не паспеў папоўніць баланс, а тыя грошы, што былі раней,

**Мая дачка, не падазраючы аб падмане, даслала некалькі смс-ак, пасля чаго з рахунка знялі 500 тысяч рублёў**

ужо «выгавараліся»). З гэтага вынікала, што паслуга па перасылцы смс-паведамленняў прадастаўлялася маёй дачцэ ў крэдыт. Аднак паслуга па прадастаўленні крэдыту (такая, як «тэрміновы крэдыт», «крэдыт даверу», «абяцаны плацеж») на мабільным тэлефоне маёй дачкі ў той перыяд не актывавалася.

На сайце МТС у раздзеле «Абарона ад махляроў» сказана, што «кампанія МТС змагаецца з тэлефонным махлярствам і заўсёды імкнецца папярэдзіць падобныя злачынствы». Думаю, кампаніі МТС варта было б прыкладаць больш намаганняў для барацьбы з тэлефонным махлярствам, улічваючы, што яна мае тарыфныя планы («Дзіцячы»), спецыяльна прызначаныя для карыстання непаўналетнімі, якія валодаюць абмежаванай дзеяздольнасцю. Пасля ўжо я даведаўся ад дачкі аб тым, што не яна адна стала ахвярай махлярскіх дзеянняў.

На днях я адправіў адказ на прэтэнзію СТАА «Мабільныя ТэлеСістэмы», у якім паведаміў аператару аб тым, што не прызнаю ў добраахвотным парадку доўг і адмаўляюся ад яго выплаты. «Ваша палітыка, — напісаў я, — у дачыненні да непаўналетніх абанентаў, якія валодаюць абмежаванай грамадзянскай дзеяздольнасцю, павінна будавацца з улікам іх законных інтарэсаў. Ажыццяўленне тэхнічнай падтрымкі такой палітыкі павінна стаць рэальнай асновай існавання спецыялізаваных тарыфных планаў як «Дзіцячы».

Як будзе далей, сказаць не бяруся. Верагодна, мяне чакае грамадзянскі пазоў. Але сваё меркаванне, выкладзенае вышэй, я гатовы адстойваць і ў судзе.

**Алег Мацкевіч, Барысаў**

**Ад Рэдакцыі**

У службе падтрымкі кампаніі МТС паведамілі, што тарыф «Дзіцячы» не мае аўтаматычнай блакіроўкі пры адмоўным балансе рахунка. «У дамове прапісана, што кампанія можа, але не абавязана заблакаваць паслугі пры адмоўным балансе. Каб уключыць аўтаматычную блакіроўку пры адмоўным балансе, трэба звярнуцца ў офіс кампаніі з пашпартам», — паведаміла супрацоўніца МТС.

Трэба таксама ўсведамляць, што хоць тарыф і называецца «Дзіцячы», але ўсё адно сім-картка рэгіструецца на аднаго з бацькоў, то бок паўналетнюю дзеяздольную асобу, і адказнасць па аперацыях з гэтай сім-карткай ляжыць на ўказаным у дамове чалавеку.

Памятайце, што мабільныя аператары — камерцыйныя арганізацыі, мэтай якіх з'яўляецца атрыманне прыбытку, і свае грошы яны не ўпусцяць. Таму ўважліва чытайце і аналізуйце дамовы! А яшчэ пільна сачыце за дзецьмі. Асабістая інфармацыя ў сацыяльных сетках — сапраўдная прынада махляроў. Нават дарослым не рэкамендуюць выкладаць «Укантакце» нумар тэлефона, што ж казаць пра непаўналетнюю дзяўчынку.

# Беларуская глыбіня. **Запаветны звер**

Піша **Павел Севярынец**.



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

*Звер, якога ты бачыў,*
*Быў, і няма яго,*
*І выйдзе з бездані,*
*І пойдзе ў пагібель.*
*Апакаліпсіс 17:8*

Вясна. Раніцай, яшчэ да праверкі, прачынаешся ад празрыстага птушынага шчабятання. Ціўкаюць так — аж шчыміць сэрца. І пакуль не загалосіць а шостай аглушальны званок на пад'ём, пакуль не расплюшчыш вочы, пакуль не рассячэ акаём край верхняга шканара і краты на вокнах — можаш колькі заўгодна ўяўляць, што ты ў раі.

Птаства тут мора, разнайстайнага, меладычнага, порсткага — сініцы, гракі, крумкачы, зязюлі, ластаўкі, лёгкія, нібы вэлюм, сціжмы каралькоў. Пушча побач — і жывёла падбіраецца бліжэй да чалавечага жытла, каб пракарміцца.

Ідзеш на працу праз пералесак — а проста на дарожцы янот. Першы раз бачу жывога янота. Пухнаты, паласаты, як на паштоўках. Пачакаў, пакуль я падыду, прысяду, абнюхаў, сунуўся да кішэняў — э, ядомага няма, — незадаволена крэкнуў, павярнуўся ды патэпаў сабе ўразвалачку.

Не баіцца. Можа, і шалёны — дык нейкі ціхі шал.

У двух кроках ад камены, на спортгарадку, начамі рыецца дзік — зранку ўвесь дзірван пад каштанамі ўспораты моцным лычом. «Зусім ужо абарзеў», — напаўголаса кажуць «хімікі». Нягучна — каб не пачуў?

Інжынер з Роўбіцка, з-пад самай Пушчы, расказвае пра зуброў: выходзіць з лесу статак, ламае загарадкі, вытоптвае ды выскубвае рунь — і што ты ім зробіш, тым махінам, грудзіна вісіць да зямлі, а над табой — гара абраслага поўсцю мяса!

Пушча пацікаў адваёўвае ваколіцы. Мясцовыя алігархі будуюць тут паляўнічыя маёнткі — а звер і птушка рассяляюцца па бліжэйшых вёсках, каторыя вымiраюць і зарастаюць быллём.

Сармацкі змешаны лес — у якім сярэдні ўзрост дрэваў складае ад 80 да 100 гадоў (і дагэтуль трапляюцца дубы, што памятаюць паляванні Вітаўта ды Жыгімонта Аўгуста), лес, якому паводле ўзросту ды разнастайнасці відаў раслінаў і жывёлаў няма роўных у Еўропе, дзе хаваліся героі сянкевічавага «Патопу» і дзе Шышкін пісаў эцюды для сваіх знакамітых лясных карцінаў, — быў зроблены запаведным яшчэ прывілеем Ягайлы ў 1409-м.

Але ў сённяшняй Пушчы, развярэджанай меліярацыяй, высахлай, здратаванай «санітарнымі высечкамі» пад выглядам барацьбы з караедам (па 100—120 тысячаў кубаметраў драўніны ў год — карaед някепска харчаваўся), захламленай наступствамі «элітнага палявання» ды масавага турызму, усё больш звярэе сам чалавек.

І вось ужо з Пушчы, як дзікага звера, гоняць эколага-абаронцу Валерыя Дранчука.

Калісьці сярэднявечны аўтар пісаў: «У Вялікай Літве звера больш, чым ува ўсім астатнім хрысціянскім свеце». Ці варта здзіўляцца, што дрымучая Беларусь дагэтуль жыве паводле закона джунгляў?

Рэжым, у якога з ілба, хоць трэсні, пруць рогі, а калматыя лапы растуць проста з савецкага бязбожжа, *зверу* ў чалавеку дае поўную волю. Зграя ў шэрым на асфальце — у нас ужо даўно частка краявіду, асабліва там, дзе сабралася больш за трое. Хочаш на вачах ва ўсіх беспакарана ганяць, быццам быдла, *асоба вумных*? Хочаш упівацца да страты чалавечага аблічча? Хочаш блуду і жывёльнага юру — не адно ў барах ды на канцэртах, але і на афіцыйнай тэлевізіі?.. Нават у клетцы — у «амерыканцы», у «зоне», на «хіміі» — мужыкоў, схільных да гвалту, усаджваюць перад чорнымі скрынямі на абавязковы *прагляд*: стрэлы, выбухі, вампіры, крыкі ды кроў пырскамі.

Галоўнае, каб звер у табе жэр, грыз, даядаў чалавека.

Свабоды?.. Мовы?.. Веры?.. О-о, ды тут чалавечынкай папахвае!..

Зрэшты, у кіпцюрах ГПУ мы з 1917-га ніколі не сумняваліся. А што наконт нас саміх?

У кожнага беларуса — чыноўніка, спецназаўца, абывацеля ці змагара — душа — Белавежская пушча. Глыбокая. Таямнічая. Са сваімі скляпеннямі ды спляценнямі характа змешанага сармацкага лесу ў гушчарах, затканых імглою.

І са сваім запаветным зверам.

Праз чалавечае грэхападзенне, першароднае адмаўленне чалавека ад Бога грэх увайшоў ува ўсю прыроду. На першабытную драпежнасць, лютасць, паяданне аднаго аднаго, смерць і тленне захварэла і ўсё тварэнне. І адначасна — звер увайшоў у нас.

Чалавек жыве, забаўляецца, змагаецца і баіцца звера ў сабе штодня. Па сутнасці, усё жыццё на зямлі зводзіцца да гэтага пытання: каго падтрымаць — Чалавека ці таго, хто «чалавек чалавеку»... Мы радыя павесціся. Наесціся. Падпіць. Заблудзіць. Раўнуць на слабейшага. Рвануць — і ў кусты. Не выпусціць з кіпцяў. Заблытаць сляды. Ну хоць на Месяц павыць ад безнадзёгі ў рэшце рэшт.

Днямі ў бліжэйшых ад Купліна Калядзічах мужчына з аўчаркай увайшоў у дом і натравіў сабаку на гаспадыню — на вачах дачкі і мужа.

Прыслухайся, прынюхайся да сябе. Пацікуй за ўласным позіркам — ці рэдка ён учэпіцца ва ўпадабанае, каб урваць і ўбок? Зазірні ў тую нару, заімшэлую, цёплую, улежную, смярдзючую, якую кожны з нас носіць у сваіх грудзях...

Нават беларусу з ягонай Белавежскай пушчай у сэрцы не ўпакорыць дзікага звера ў сабе самім.

Той запаветны звер зжываецца з табой, то задаволена вуркоча, то цяжка дыхае, то заміраe, чуйна і аддана, схаваны ад старонніх вачэй, не дае гаспадару ўсумніцца, што ён з табою адно, цікуе, пільнуе, вычэквае, каб аднойчы выбухнуць вырашальным рыўком — і ў апошняй бітве, ашчэрыўшы зубы, раптам напароцца на смяротную рану, нанесеную яму Богам.

*Куплін*

**Мы радыя павесціся. Наесціся. Падпіць. Заблудзіць** »

# Пра нацыянальную рэвалюцыю і партызана Кудзёлку

**Гісторыя селяніна з-пад Слуцка, які партызаніў супраць палякаў і супраць саветаў, чакае даследчыкаў. Піша Анатоль Сідарэвіч.**

Некалі я падбіваў Алеся Жука напісаць твор пра ягонага земляка Кудзёлку. Імя Кудзёлкі я не ведаю, але яшчэ ў 1960-я чуў гісторыю гэтага чалавека. Як ён увосень 1919-га ўзяў у рукі зброю і пайшоў партызаніць, каб вытурыць з роднага краю польскіх акупантаў.

Мой настаўнік, Рыгор Віктаравіч Родчанка, казаў, што быў Кудзёлка чырвоным партызанам. (Да ведама нашых маладых і гарачых антыкамуністаў: польскія акупанты сваімі зверствамі надта добра паслужылі камунізацыі беларускага люду.)

З такою славаю — славаю чырвонага партызана — дажыў Кудзёлка да нямецка-савецкай вайны. Калі фронт пакаціўся на ўсход, міласэрныя беларусы, і асабліва беларускі, прынялі ў свае дамы шмат савецкіх акружэнцаў. А ўжо з восені 1941-га некаторыя з іх, агоітаўшыся і агледзеўшыся, пачалі «партызаніць». Стваралі сапраўдныя банды, якія хадзілі па вёсках ды рабавалі бяззбройных людзей, вычышчалі іх куфры. Таму на Случчыне іх празвалі куфэршчыкамі.

Прыйшлі аднаго разу куфэршчыкі і ў тую вёску, дзе жыў чырвоны партызан Кудзёлка. Сутыкнуўшыся з такою праявою, стары сказаў:

— Дык гэтакія вы партызаны?! Я ж вам пакажу.

Казаў мне мой настаўнік, што той Кудзёлка з сынамі зрабіў са свае вёскі непрыступную крэпасць. І былыя куфэршчыкі, якіх з восені 1942-га засланыя ў нямецкі тыл энкавэдысты прымусілі падпарадкавацца Маскве, і самі дыверсанты-энкавэдысты трапіць у тую вёску не маглі: на подступах іх чакала смерць.

І тады савецкія партызаны пачалі сапраўднае паляванне на Кудзёлку. Калі ў 1943-м яго ўдалося забіць, з гэтае радасці, казаў мне Р. Родчанка, бальшавікі выпусцілі адмысловую ўлётку.

Гэтая гісторыя згадалася мне, калі я чытаў свежы, 35-ты выпуск «Запісаў» Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку.

Сярод матэрыялаў 35-й кніжкі «Запісаў» найперш маю ўвагу прыцягнула публікацыя Макса Шчура «Беларусь у пражскім часопісе Slovanský Přehled (1925—1938)», бо дасюль агляду альбарутэнікі ў гэтым выданні я не бачыў. Публікацыя М. Шчура адначасна мяне і расчаравала, бо публікатар нічога не паведаміў пра тэксты Антона Луцкевіча ў пражскім часопісе, а яны, пэўна, там сустракаюцца.

З пісьменнікаў даўнейшае пары «гераямі» гэтага выпуску «Запісаў» сталі Антон Адамовіч, Юрка Віцьбіч (іх спадчына, здаецца, невычэрпная), Міхась Кавыль і... Тут мушу прызнацца, што для мяне на-новаму адкрылася асоба Тамаша Антона Грыба.

Мне было цікава чытаць нататкі Т. Грыба з часопіса Slovanský Přehled, але найбольш уразілі яго тэксты, якія Лявон Юрэвіч, Наталля Гардзіенка ды Ціхан Чарнякевіч апублікавалі пад загалоўкам «Два артыкулы». Найбольшую радасць мне прынесла чытанне тых раздзелаў, у якіх аўтар разважае аб сацыяльным ладзе СССР, аб рэвалюцыі і контррэвалюцыі. Я ледзь не пляскаў у ладкі, калі дайшоў да развагаў Т. Грыба аб беларускай народнай рэвалюцыі, аб яе этапах.

Друкуючы 30 сакавіка 2011 года ў «Нашай Ніве» артыкул «Беларуская рэвалюцыя яшчэ не завершана», я паказаў, што першы паняцце «беларуская рэвалюцыя» на старонках «Вольнае Беларусі» ўвёў 21 снежня 1917 года Язэп Лёсік. Потым Антон Луцкевіч у двух ці трох артыкулах 1920-х пісаў пра беларускую нацыянальную рэвалюцыю. Гэта быў погляд двух беларускіх марксістаў, сацыял-дэмакратаў. І вось цяпер я сустрэў словы «беларуская народная рэвалюцыя» ў артыкуле народніка, сацыялістарэвалюцыянера. (Без сумневаў, слова «народная» ўжыта Т. Грыбам у значэнні «нацыянальная».)

Да чаго я вяду? Да таго, што беларускім гісторыкам даецца ў рукі метадалагічны ключ. Звярнуўшыся да паняцця «беларуская нацыянальная рэвалюцыя», яны, я перакананы, здолеюць глыбей спасцігнуць логіку падзей апошняга стагоддзя, што адбываліся ў нашай краіне.

Звярнуўшыся да паняцця «беларуская нацыянальная рэвалюцыя», гісторыкі, можа, трохі інакш глянуць на падзеі Другой сусветнай вайны ў нашай краіне. Многія ўжо не глядзяць на іх праз сталінска-хрушчоўска-брэжнеўскую прызму, якою карыстаецца наш афіцыёз, але паняцце «беларуская нацыянальная рэвалюцыя», магчыма, дапаможа ім лепш зразумець многае, у тым ліку феномен партызана Кудзёлкі.

Апавяданне Рыгора Родчанкі пра Кудзёлку я згадаў, калі чытаў у свежым выпуску «Запісаў» БІНіМа тэксты случчакоў: «Із успамінаў» паэта Міхася Кавыля ды лісты да Юркі Віцьбіча паэта і паўстанца Алеся Змагара і выпускніка Слуцкага педагагічнага вучылішча Валера Навіцкага. Лявон Юрэвіч і Наталля Гардзіенка апублікавалі іх пад загалоўкам «Антыбальшавіцкія паўстанні і партызанская барацьба на Беларусі: тэма, якая не адпускала». Тэма гэтая сапраўды не адпускала Юрку Віцьбіча,

**Я бачу змагарнага беларуса, які ваяваў pro doma sua »**

аўтара знакамітай кнігі «Антыбальшавіцкія паўстанні і партызанская барацьба на Беларусі» — кнігі, якая выходзіла двойчы і якая выклікае прыступы гневу ў чыноўнікаў ад гістарычнай навукі.

Валер Навіцкі, які нарадзіўся ў 1920-м, у час Другой сусветнай вайны быў старшым звязовым Саюза беларускай моладзі ў Грэскім раёне. Партызана Кудзёлку ён ведаў асабіста. І ведаў, што той нарадзіўся і жыў у вёсцы Праснакі (у «Запісах» гэтая вёска, што недалёка ад Грэска і ад Грозава ды ўваходзіць цяпер у Капыльскі раён, названа Краснакамі).

Навіцкі піша, што Кудзёлка, паваяваўшы супроць палякаў, стаў у 1920-м партызаніць супроць бальшавікоў. За сваю пасіянарнасць, паведамляе ён, Кудзёлка быў асуджаны на 10 гадоў зняволення.

Вось гэтага ад свайго настаўніка я не чуў. Далей былы старшы звязовы СБМ пацвярджае, што Кудзёлка, які да пачатку вайны вярнуўся са зняволення, «біў партызанаў» (не ўдакладняючы, што ягоная партызанка пачалася з барацьбы супроць рабаўнікоў-куфэршчыкаў). У лісце В. Навіцкага да Ю. Віцьбіча я вычытаў і іншае, чаго не чуў ад Р. Родчанкі: чырвоныя партызаны, злавіўшы Кудзёлку, выкалалі яму вочы, а ў жывот насыпалі зямлі.

Яшчэ жывуць людзі, якія памятаюць Кудзёлку і многае могуць удакладніць. Магчыма, недзе ў архівах знойдзецца і ўлётка з весткай аб смерці Кудзёлкі. Пакуль жа з пачутага колісь і прачытанага кага-дзе ў «Запісах» я бачу змагарнага беларуса, які ваяваў, як казалі старажытныя рымляне, pro domo sua — за свой дом.

Ці было гэта адной з праяў беларускай рэвалюцыі? Спадзяюся, гісторыкі адкажуць і на гэтае пытанне.

# Горацкае паўстанне 1918: камісара Пагодзіна забілі за «Разайдзісь!»

**Невядомая старонка гісторыі антысавецкага супраціву. Піша гісторык Ніна Стужынская.**

У 1918-м па Беларусі разлілося мора сялянскіх паўстанняў. Самавольства бальшавікоў, злоўжыванні харчатрадаў, ЧК, ячэек РКП(б) выклікалі ў людзей абурэнне.

У Гомельскім архіве знайшліся дакументы, якія праліваюць святло на падзеі сакавіка 1918 у Горках Магілёўскай губерні.

Пачатак сакавіка быў неспакойным. Фронт набліжаўся. 19 лютага немцы занялі Мінск, 1 сакавіка — Гомель, Магілёў. Горацкі бальшавіцкі выканкам «са стратэгічных меркаванняў» вырашыў пакінуць горад і перабрацца ў фальварак Собалева.

Але зрабіць гэта было няпроста. Рабочыя, што бунтавалі ў Горках, патрабуючы выплаты заробкаў, не выпускалі камісараў, пакуль тыя не аддадуць грошы. Выканкам узяў пазыку ў грамадскіх арганізацый горада, выплаціў заробкі і толькі пасля выехаў. Уцекачы не паспелі даехаць да фальварка, а ў Горках ужо быў абраны выканкам у новым складзе: без бальшавікоў.

Цэнтрам паўстання стаў Камітэт самаабароны. Яго стварэнне ініцыявалі самі бальшавікі з улікам пагрозлівай сітуацыі на фронце. Шукаючы ратунку ад немцаў, яны прапанавалі Камітэту, у які ўвайшлі уплывовыя гараджане, арганізаваць адпор ворагу, пакінулі 70 вінтовак і 600 патронаў. Згодна з высновамі ЧК, групу «контррэвалюцыянераў-змоўшчыкаў» узначаліў нехта А. Л. Рубанаў. Звестак пра яго больш не падаецца.

6 сакавіка да фальварка Собалева дайшлі звесткі, што ў Брэсце была падпісаная дамова аб замірэнні з немцамі. У Горкі накіраваўся старшыня выканкама, бальшавік Маісееў, каб паведаміць Камітэту самаабароны, што «законная» ўлада вяртаецца. Але жыхары Горак кінуліся да Маісеева з крыкамі: «Рабаўнік!» і, збіўшы да паўсмерці, звалаклі ў горацкую турму. Вызваліў яго толькі атрад чырвонаармейцаў.

Прыбыццё карнага аддзела падштурхнула гараджанаў да фарміравання ўзброеных атрадаў. Са следчай справы дазнаёмся імёны. Антон Падзерскі, павятовы начальнік міліцыі, які арганізаваў выдачу зброі, расставіў каравулы ў месцы, адкуль маглі ўвайсці ў горад чырвоныя. Патап Белашайскі быў абраны паўстанцамі старшынёй Горацкага часовага выканкама, ён і Мікалай Кандраценка падпісалі загады аб арышце бальшавікоў.

Следчыя дакументы Горацкага паўстання адкрываюць рэальную гісторыю гібелі камісара Пагодзіна, арганізатара першага мясцовага чырвонаармейскага атрада. У Горках адна з вуліц і чыгуначная станцыя носяць яго імя.

Сцяпан Пагодзін быў тутэйшы, з вёскі Гушчына Горацкага павета. 14 сакавіка, піша афіцыйная біяграфія, «ворагам рэвалюцыі» ўдалося арыштаваць членаў Камітэта самаабароны. Атрад Пагодзіна вызваліў іх з турмы. Падчас аперацыі ваенкам быў смяротна паранены.

Следчая справа ўдзельнікаў паўстання сведчыць, што атрад Пагодзіна вярнуўся ў Горкі 7 сакавіка. І вызваляў не «членаў Камітэта самаабароны», а старшыню выканкама Маісеева. «Калі ваенны камісар Пагодзін звярнуўся да «белагвардзейскага» натоўпу з крыкам «Разайдзісь!», з натоўпу адбыўся стрэл», — перадае падрабязнасці следчая справа.

Камісара смяротна параніў «белагвардзеец Абрамбкоўскі», член акружнога суда. «Белагвардзеец Айзік Ратноўскі» збіваў параненага Пагодзіна прыкладам. Браты Айзіка — Аркадзь і Шальдар — і сын Айзіка, вучань агранамічнай вучэльні, таксама «з вінтоўкаю ў руках выступілі супраць савецкіх войскаў». А Файфіш Абрамавіч Зільберман «падвозіў белагвардзейцам патроны з белаю павязкаю на рукаве...»




Сведчанні абвяргаюць папулярны міф пра тое, што яўрэйскае насельніцтва спрэс падтрымлівала бальшавікоў.

Здушыць паўстанне змог толькі 1-ы конны Аршанскі аддзел на чале з начальнікам штаба Сцяпанавым. На 5-м з'ездзе саветаў Горацкага павета 15 сакавіка Маісееў зрабіў даклад аб контррэвалюцыйным выступленні ў горадзе Горкі 6 і 7 сакавіка, пералічыў 29 чалавек, якія арганізавалі пераварот.

Афіцыйныя крыніцы пішуць, што паўстанне цягнулася два дні. Але савецкая ўлада вярнулася ў Горкі толькі напярэдадні 5-га з'езда. Значыць, паўстанцы гаспадарылі ў горадзе паўмесяца. Арыштаваць удалося толькі чатырох фігурантаў падзей — Ждановіча, Кандраценку, Мікалаева, Вязава. Астатнія паспелі ўцячы.

У наступным, 1919-м, у маі, паўстанне ахопіць Горацкі павет. Сялянскі фронт змагання з саветамі вылучыць новых лідараў — братоў Карпа і Пятра Пруднікавых з вёскі Аўсянка, братоў Мікалая і Пракопа Піменавых з Гарадзішча, Даніла Іванова з Ліхачова...

Але гэта наступная гісторыя.

*Друкуецца ў скароце, поўную версію чытайце на nn.by*

# Чэмпіянат Беларусі па футболе



**30—31 сакавіка стартуе 23-і Чэмпіянат Беларусі па футболе.**
У суботу згуляюць:
«Мінск» — «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна). Гульня пройдзе на штучным полі побач з футбольным манежам.
«Нафтан» (Наваполацк) — «Шахцёр». Стадыён у Наваполацку традыцыйна непадрыхтаваны да пачатка сезона, таму гульня адбудзецца ў Віцебску.
«Дняпро» (Магілёў) — «Гомель». Магілёў, стадыён «Спартак».
У нядзелю падужаюцца:
«Белшына» — «Дынама» (Брэст). Таксама гульня адбудзецца ў Мінску на штучным полі.
«Нёман» (Гродна) — «Славія» (Гродна). Стадыён «Нёман».
І гвозд тура, эль-класіка беларускага футбола: БАТЭ (Барысаў) — «Дынама» (Мінск). Стадыён «Тарпеда» (Жодзіна).

## КАНЦЭРТЫ

### Да 150-годдзя паўстання Каліноўскага

**29 сакавіка а 19-й у Малой зале імя Шырмы** — канцэрт ансамбля салістаў «Класік-Авангард», прысвечаны 150-годдзю паўстання Кастуся Каліноўскага.

### Irish Party

**29 сакавіка а 19-й у клубе «Алекс'с» (Чарнышэўскага, 10а)** — канцэрт фолк-панк гурту Drunken Fairy Tales. Таксама возьмуць удзел «Бостанскае чаепіціе» (фолк-панк), Crow Dog Clan (Hillbilly), «Тлушч» (панк-рок) і MentalBait (psychobilly).

### The Apples

**5 красавіка а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — rock'n'roll з гуртом The Apples.

### Nazareth

**29 сакавіка а 19-й у Палацы Рэспублікі** — канцэрт гурту Nazareth.

## ВЫСТАВЫ

### Кватэрнікі. Камбэк у 80-я

**Да 10 красавіка ў «Доме-музеі І з'езда РСДРП»** працуе выстава «Кватэрнікі. Камбэк у 80-я». Кватэрнік — від музычнага канцэрта, які адбываўся ў гарадской кватэры.

### Букет для Марыі

**Да 31 сакавіка ў Музеі гісторыі горада Мінска (Рэвалюцыйная, 10)** працуе выстава жывапісу Ларысы Зарубінай «Букет для Марыі». Экспануюцца жывапісныя кветкавыя кампазіцыі, нацюрморты.

### Дэканструкцыя

**Да 30 сакавіка ў Вялікай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** працуе выстава скульптуры і аб`ектаў славацкага мастака Марэка Рыбаня «Дэканструкцыя». Мастак актыўна працуе з дрэвам, стварае аб'екты і станковыя кампазіцыі.

### Жывыя мятлікі ў Гродне

**Да 31 сакавіка ў Гродзенскай выставачнай зале (Ажэшкі, 38)** працуе выстава жывых экзатычных матылькоў. Пра некаторых матылькоў існуюць паданні, жыццё іншых само падобнае да казкі…

## ІМПРЭЗЫ

### Куфар_Пластылін

**Да 30 сакавіка Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт** у 2-гі раз праводзіць Міжнародны тыдзень пластычных мастацтваў «Куфар_Пластылін». У праграме — выставы фота і сцэнаграфіі, відэа-арт, інсталяцыі, стрыт-арт і інтэракцыі, арт-лекцыі, майстар-класы…

### Шэнгенка

У Мінску — Шэнгенка (фестываль сярэднееўрапейскай літаратуры).
**29 сакавіка а 19-й у галерэі «Ў» (пр.Незалежнасці, 37а)** — мемуар-вечарынка. Жанр белетрызаваных успамінаў заслужана мае вялікую папулярнасць у свеце. Рэальныя падзеі часцяком могуць быць больш фантастычнымі і неверагоднымі за самую выкшталцоную выдумку, асабліва калі вядзецца пра трагічныя падзеі еўрапейскай гісторыі XX стагоддзя.

## ТЭАТРЫ

### 28 сакавіка

**Юнага гледача** — «Кот у ботах»
**Беларускай драматургіі** — «Стойкі алавяны салдацік»
**Лялек** — «Марынка-крапіўніца»
**Беларускай драматургіі** — «Сёстры Псіхеі»

### 29 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — «Дамавічкі»
**Юнага гледача** — «Вясёлы Роджар»
**Беларускай драматургіі** — «Містар Розыгрыш»
**Оперы і балета** — «Шчаўкунок»
**Лялек** — «Шоўк»

### 30 сакавіка

**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Юнага гледача** — «Тры парсючкі»
**Беларускай драматургіі** — «Дамавічкі»
**Оперы і балета** — «Шчаўкунок»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»
**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»

### 31 сакавіка

**Юнага гледача** — «Беласнежка і сем гномаў»
**Лялек** — «Вясёлы цырк»
**Оперы і балета** — «Тры парсючкі»
**Беларускай драматургіі** — «Гісторыя двух сабак»
**Оперы і балета** — «Шчаўкунок»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»
**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»

### 2 красавіка

**Оперы і балета** — «Сівая легенда»

### 3 красавіка

**Оперы і балета** — «Трыстан і Ізольда. Балеро»

### 4 красавіка

**Лялек** — «Нататкі вар'ята»
**Оперы і балета** — «Зоркі сусветнага балета»

### 5 красавіка

**Оперы і балета** — «Лебядзінае возера»
**Лялек** — «Шоўк»

### 6 красавіка

**Лялек** — «Марозка»
**Юнага гледача** — «Беласнежка і сем гномаў»
**Беларускай драматургіі** — «Раскіданае гняздо»
**Оперы і балета** — «Кармэн»

### 7 красавіка

**Лялек** — «Піпі-Доўгаяпанчоха»
**Юнага гледача** — «Тры парсючкі»
**Оперы і балета** — «Чыпаліна»
**Беларускай драматургіі** — «Раскіданае гняздо»
**Оперы і балета** — «Іаланта»

## КІНО

### Джэк і бабовае зярнятка

Джэк — пераможца волатаў (Jack the Giant Slayer)
ЗША, 2013, каляровы, 114 хв.
**Рэжысёр:** Браян Сінгер
**Ролі выконваюць:** Нікалас Голт, Элінор Томлінсан, Юэн МакГрэгар, Стэнлі Тучы, Ен МакШэйн
**Жанр:** Казачныя прыгоды
**Адзнака:** 5,5 (з 10)

Волаты з краіны, куды забрацца можна па бабовым дрэве, выкралі зямную прынцэсу. Звычайны хлопец Джэк далучаецца да вызваляльнай экспедыцыі — і адыграе ў гэтай гісторыі вялікую ролю.
Карціна Браяна Сінгера — меладраматычны варыянт на тэму вядомай англійскай казкі пра Джэка і чароўны боб.
У фільме — бруднаватыя гіганты, якія мараць захапіць зямлю і якім яўна бракуе мазгоў, гераічныя месцічы, каралеўскія сцягі, інтрыган Стэнлі Тучы і Джэк, не сама вялікі ростам, але спрытны. Барацьба Давіда з Галіяфам мусіць завершыцца перавагай спрыту.

**Андрэй Расінскі**






### Фолк'н'Рол Вясна-2013

**29 сакавіка ў 18.30 у «Салтайме» (пр.Незалежнасці, 131/1)** — «Фолк'н'Рол Вясна-2013». Бяруць удзел гурты «Кашлаты Вох» (Мінск), «Кліч» (Мінск), Omut (Драгічын—Мінск), Wartha (Мінск).




### Паўстанне 1863—1864

**Да 14 красавіка ў Гістарычным музеі** працуе выстава «Паўстанне 1863—1864 гг.», на якой прадстаўлена звыш 30 арыгінальных гравюр з французскага часопіса Le Monde illustrè, друкаваныя выданні і рукапісныя дакументы — апублікаваныя ўспаміны сучаснікаў падзей, творы грамадска-палітычных дзеячаў, гістарычныя даследаванні, узоры фалерыстыкі і сфрагістыкі.

# «Мы зарабляем мільярды на пантах моладзі»

Продаж тэхнікі Apple — **залатое дно.**

Фраза, вынесеная ў загаловак, прыпісваецца Стыву Джобсу, былому кіраўніку кампаніі Apple Inc. Дакладна невядома, ён аўтар гэтага афарызма ці нехта іншы. Але ўсё адно прылады з «надкусаным яблыкам» на пакавальнай скрынцы карыстаюцца велізарным попытам, нягледзячы на вялікую, а часам нават неабгрунтавана завышаную цану.

Apple Inc зарабіла мільярды на сваіх прыладах. Але тыя радасці далёкія ад нас і нашых рэаліяў. А вось колькі зарабляюць беларусы, якія перапрадаюць прылады Apple, — пытанне больш цікавае. Каб высветліць гэта, «Наша Ніва» сустрэлася з адным з уладальнікаў інтэрнэт-крамы, якая займаецца збытам тэхнікі з прыстаўкай «ай-». Малады чалавек, што прадставіўся Аляксандрам, дапамог нам разабрацца ў некаторых момантах.

**«Наша Ніва»: Як Вы думаеце, чаму iPhone так падабаецца грамадству?**

**Аляксандр:** У кожнага свае прычыны. Камусьці ён сапраўды падабаецца як гаджэт. Напрыклад, я лічу, што менавіта гэтая прылада мае найлепшы сэнсар. Але большасць бярэ яго, бо модна, тут не паспрачаешся.

**«НН»: Значыцца, выказванне пра «панты моладзі» праўдзівае?**

**А:** Безумоўна, гэта асноўны момант пры набыцці. Але кожны — гаспадар свайму кашальку, калі вы зарабілі на такую цацку або вам далі на яе грошай, як гэта часцей бывае.

**«НН»: Ці каштуе ён такіх грошай?**

**А:** Залежыць ад таго, пра якія грошы ідзе гаворка. Калі ў Мінску толькі з'явіўся iPhone 5, цана сягала 2 тысяч даляраў. Я прывёз першую партыю (15 штук) толькі праз дватры тыдні пасля яго выхаду ў ЗША, і тым не менш адразу арганізавалася чарга гатовых набыць тэлефоны за такія грошы. Прынамсі, я не аддаў бы столькі за мабільную прыладу. Асабліва ведаючы, колькі яны каштуюць насамрэч.

**«НН»: А колькі?**

**А:** Прыкладна ў тры разы менш.

**«НН»: Такім чынам, можна прыкладна падлічыць Ваш заробак на той момант.**

**А:** Мы не толькі тэлефоны прадаём, а яшчэ і розныя аксесуары да іх. Напрыклад, набыў 100 чахлоў па 5 еўра у Іспаніі, прывёз — а тут яны 15–20 каштуюць.

**«НН»: Колькі можа зарабіць чалавек, які гандлюе «яблыкавымі» прыладамі ў Мінску?**



**Трэнд апошняга года — дзяўчыны, часам аголеныя, фатаграфуюцца перад люстэркам на айфон і выстаўляюць здымкі ў інтэрнэт**

**А:** Тут усё залежыць ад маштабаў. Але пры іншых добрых абставінах можна зарабіць ад 5 да 10 тысяч даляраў за месяц.

**«НН»: Ёсць такі жарт, што «расійскія аўтамабілі — залатое дно. Аднойчы набыў машыну, а потым кожны тыдзень набываеш запчасткі». Ці можна тут правесці паралель з Вашым бізнэсам?**

**А:** Безумоўна. Напрыклад, мне кожны дзень прыносяць адну-дзве паламаныя ці разбітыя ўшчэнт прылады. Цана за іх рамонт можа даходзіць да $100. А калі яшчэ карыстацца «чорнымі» ці кітайскімі дэталямі, то можна зарабіць больш, чым на продажы. Што некаторыя і робяць.

**«НН»: Як можна абдурыць пакупнікоў або тых, хто прынёс тэлефон у рамонт?**

**А:** Па-першае, гэта зборка тэлефонаў «ўласнымі магчымасцямі». Калі вам з розных «дабітых» ці «плывучых» у мінулым прыладаў робяць адну, якая выглядае як новая, бо мае новы корпус. А праз месяц такія тэлефоны перастаюць працаваць. Пра другое, я ўжо казаў — гэта калі вам рамантуюць з дапамогай танных кітайскіх дэталяў.

**«НН»: Як ад гэтага можна застрахавацца?**

**А:** Ніколі не набывайце такія прылады без фірмовых упаковак, запячатаных у плёнку. А ад кітайскіх дэталяў — ніяк, калі самі не ведаеце, як што мусіць выглядаць. Але тут як пашанцуе: бывае, што «танны Кітай» працуе лепш за арыгінал. Таму набывайце і рамантуйце ў сваіх знаёмых. Толькі вось па сабе ведаю: цяпер такі час, што і яны не заўжды шчыра дапамогуць, — бізнэс.

**Андрэй Макаёнак**

## Дзе лягчэй атрымаць шматразовую шэнгенскую візу?

Беларусы — **сусветныя лідары** па атрыманых шэнгенах.

Летась беларусы атрымалі 693 тысячы шэнгенскіх візаў пры 698 тысячах пададзеных заяваў. Незадаволенымі засталіся ўсяго 0,5% просьбаў. Пры гэтым амаль палова выдадзеных візаў — шматразовыя. Якія консульствы былі самымі добразычлівымі да беларусаў?

Больш за ўсіх візаў нашым грамадзянам выдала Польшча — амаль 292 тысячы (66% шматразовых). Прычым найбольш шчыравала брэсцкае консульства. Другое месца трымае Літва са 193 тысячамі візаў (32% шматразовых), на трэцім Германія — амаль 66 тысяч, 17% з іх шматразовыя. «Антылідарам» стала Швецыя: яна выдала толькі 3200 візаў, што не здзіўляе на фоне леташніх падзей у беларускашведскім дыпламатычным жыцці.

Штогод колькасць візаў, выдадзеных беларусам, узрастае на 110—150 тысяч. Наша краіна захоўвае сусветнае першынство па візах, выдадзеных на 1000 чалавек. У Беларусі гэты паказчык складае 73 візы. Для параўнання, у Расіі выдадзеная 41 віза на 1000 чалавек,ва Украіне — 28 візаў.

Але Беларусь, у адрозненне ад суседак, пакуль не падпісала з Еўрасаюзам пагадненне аб спрашчэнні візавага рэжыму і рэадмісіі, таму цана на візу для беларусаў складае 60 еўра, калі для расійцаў і ўкраінцаў — 35 еўра.

**Кірыла Хілько**

**Польская віза «на закупы»**

Адзін з самых лёгкіх відаў атрымання шматразовай шэнгенскай візы — праз запрашэнне з польскай крамы. Дастаткова папрасіць кагосьці са сваякоў ці знаёмых аформіць спецыяльны бланк у Варшаве ці Беластоку. Альбо звярнуцца да людзей, якія займаюцца такімі запрашэннямі. За дакумент давядзецца заплаціць каля $15. Самае складанае — запісацца на падачу дакументаў праз інтэрнэт.

Першы раз вы атрымаеце аднаразовую візу, у наступныя — шматразовую. З ёй можна будзе падарожнічаць па краінах шэнгенскай зоны на працягу 90 дзён за паўгода. На другія паўгода «выдаецца» яшчэ 90 дзён.

**Аўто**

## На дарогах Беларусі гіне ўдвая больш людзей, чым у Еўрасаюзе

У ДТЗ летась загінула **больш за 1000 чалавек.**

Еўрапейскія ўлады падлічылі колькасць загінулых на дарогах краін Еўрасаюза. Найгоршая сітуацыя выявілася ў Літве (100 загінулых у ДТЗ на 1 мільён насельніцтва), Румыніі (96 загінулых) і Польшчы (93 загінулыя).

Найменш такіх трагедыяў адбываецца на Мальце (26 загінулых) і ў Вялікабрытаніі (28 загінулых).

Такім чынам, сярэдняя лічба загінулых у ДТЗ у Еўрасаюзе складае 55 чалавек на 1 мільён насельніцтва.

Смяротная аварыйнасць у Беларусі ўдвая большая. Паводле статыстыкі ДАІ, летась на дарогах краіны загінулі 1032 чалавекі. Гэта значыцца, смяротнасць у ДТЗ у Беларусі склала 109 чалавек на 1 мільён насельніцтва.

**ЯМ**

**Тэлебачанне**

## Улетку БТ запусціць платны спартыўны канал «Беларусь-5»

**Грошы з бюджэту** выдзяляцца не будуць.

Старшыня Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька заявіў, што летам плануецца запуск спартыўнага тэлеканала «Беларусь-5». Па яго словах, да 2016 года закупленыя трансляцыі па тэнісе, біятлоне, футболе, хакеі. Апроч таго, вядуцца перамовы з расійскім каналам «Спорт-2» аб супрацоўніцтве».

Мяркуецца, што канал будзе платным, яго створаць без уліванія бюджэтных сродкаў.

**Goals.by**

**Прырода**

## Самая чыстая рака Беларусі — Нёман

Адной з найбольш забруджаных **застаецца Свіслач** у Мінску.

Самай чыстай ракой Беларусі на сёння лічыцца Нёман. Адной з галоўных прычын захавання чысціні з'яўляецца малая шчыльнасць насельніцтва ў вытоку ракі, а таксама часткі яе басейна, што месціцца на тэрыторыі нашай краіны.

«Галоўнай крыніцай забруджвання водных рэсурсаў з'яўляюцца людзі», — падкрэсліў начальнік упраўлення рэгулявання ўздзеяння на атмасфернае паветра і водныя рэсурсы Мінпрыроды Сяргей Заўялаў. І гэта адна з галоўных прычын, чаму Свіслач у Мінску і Мінскім раёне адносіцца да найбольш забруджаных рэкаў.

Да найбольш забруджаных водных аб'ектаў таксама адносяцца Бярэзіна (ніжэй за Барысаў), Пліса (вышэй за Жодзіна), Заходні Буг вышэй за Брэст, Мухавец (у раёне Кобрына і Жабінкі), Ясельда (ніжэй за Бярозу) і іншыя рэкі.

**СП**



**Нёман пачынаецца на паўднёвай Міншчыне і ўпадае ў Балтыйскае мора.**


**Прыватныя абвесткі**

ПАТРАБУЕЦЦА

**Патрабуецца памочнік** па сельскай гаспадарцы. Валожынскі раён. Т: (033) 663-95-02

ЗДЫМУ

**Здыму кватэру** ў Мінску. Т.: (29) 670-15-05. Андрэй.

ВІНШУЕМ

**Віншуем Вольгу Хвоін і Паўла Клімчыка** з нараджэннем дачушкі. Гадуйцеся здаровенькімі і шчаслівымі!

ПАДАРОЖЖА

**Запрашаем 6 красавіка ў сяброўскае падарожжа «Налібоцкая ўскраіна».** У праграме: Траскаўшчына, Новае Поле, Тэйкі, Ракаў, Паднеўічы, Івянец, Пяршай, Валожын. Па справах запісу і па дадатковую інфармацыю звяртацца па тэлефоне (29) 169-48-11 (Юрый Меляшкевіч).

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!




Супермадэль беларуска Марына Лінчук знялася ў адкрытай фотасесіі для часопіса 25 Magazine. Фатаграфаваў Марыну маэстра Віктар Дэмаршалье. Французскае выданне Vogue назвала Лінчук адной з 30 найлепшых мадэляў 2000-х гадоў.



Мужчына са сваім вярблюдам ля пірамід Гізы (Егіпет) падчас чакання турыстаў.



Чэшскаму беларусу Юрку Станкевічу споўнілася 85 гадоў. Беларусы Прагі падарылі яму вялікі торт.



У вёсцы Вязынка (Маладзечанскі раён) прайшло традыцыйнае свята «Гуканне вясны». Яго зладзілі Студэнцкае этнаграфічнае таварыства і Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы.

## Анекдоты і жарты

* * *

Пятро Пракаповіч: Пакуль я віцэ-прэм'ер, павышэння цэнаў не будзе!

* * *

Прэс-сакратар Пуціна першы раз сустракае новага прэс-сакратара Лукашэнкі і рашае падкалоць:

— А мой шэф багацейшы!
— А мой — круцейшы!
— А мой пазычыў твайму кучу бабак!
— А мой ніколі не аддасць!

* * *

Вопытная жонка следчага заўсёды знойдзе доказы здрады мужа, а калі не знойдзе, то падкіне.

* * *

Беларуская вёска. 2027 год, сяляне дзеляцца ўспамінамі:

— А памятаеш, колькі снегу ў 2013 наваліла?!
— Ага. Мы яшчэ на лыжах бульбу саджаць хадзілі...

* * *

Ішоў 50-ы дзень лютага.

* * *

Мне рана заводзіць дзяцей. Я маральна не гатовы купляць кіндар-сюрпрыз і аддаваць яго камусьці.

* * *

— Чаго не спіш?
— У інтэрнэце сяджу.
— Крута, а я ў гасцях.
— У каго?
— У цябе!
— Блін, забыўся...

## «НН» сто гадоў з вамі

**Беласток.** Судова-следчыя ўласці прыйшлі 19 марца ў паштовую кантору і падрабязна дапыталіся, ці не памятаюць паштовыя чыноўнікі, хто здаваў цэнную пасылку ў горад Барысаглебск. У Барысаглебску за гэтай пасылкай ніхто не прыйшоў. Яна праляжала доўгі час і пачала выдаваць страшны смурод. Калі пасылку адкрылі, у ёй знайшлі труп дзіцяткі. Трупок быў заварочаны ў посцілку і ўложаны ў бляшаную скрыначку.

**«НН». №13. 1913.**

**Кантактная вайна.** Іракцы, здраджаныя ў 1991-м, не спяшаюцца падтрымаць ЗША ў новым змаганні з тыраніяй. Амерыканцы спадзяваліся на бліцкрыг і «віваты» вызваленых шыітаў. Вашынгтонскія аналітыкі недаацанілі значэнне нацыянальнага суверэнітэту для жыхароў Ірака. Пасля першага тыдня вайны з'явіліся сумневы ў канчатковым поспеху пачатковага плана.

**«НН». №12. 2003.**

**Наша Ніва**
незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

© НАША НІВА. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8031. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 19.03.2013.
Замова №1150.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
ISSN 1819-1614

Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

9 771819 161008 13012